# наша свабода

№13(240) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 ЛЮТАГА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК



Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com


КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Тэрарысты ў пагонах

1 лютага каля паўночы трое вартаўнікоў адной з вайсковых часцей Мінскага гарнізону, што дыслакуецца ва Уруччы, разам з лейтэнантам Аляксандрам Дзявяткіным раззброілі варту і дзяжурнага па часці, вывелі са строю сродкі сувязі і, узброіўшыся двума пісталетамі, чатырма аўтаматамі і больш як 3 тысячамі патронаў, на дзяжурнай аўтамашыне пакінулі вайсковую часць. Пры гэтым яны захапілі кіроўцу, дзяжурнага па часці, памочніка начальніка варты і 14 салдат са складу варты. Пазней аўтамашына сапсавалася і яе кінулі, а Дзявяткін і тры вайскоўцы ўцяклі.

Улічваючы, што злачынцы мелі значную колькасць зброі і боепрыпасаў і ўяўлялі сабой асаблівую небяспеку, былі аператыўна створаны штабы ў міністэрстве абароны, у міністэрстве ўнутраных спраў і ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі.

Падчас аператыўна-вышуковых дзеянняў, да якіх былі прыцягнуты вайскоўцы міністэрства абароны, унутраных войскаў, супрацоўнікі МУС, кінолагі, каля 5.30 раніцы сляды злачыннай групы знайшлі непадалёк Мінска ў раёне вёскі Будзёнава. Злачынцаў затрымалі ў вёсцы Астрашыцы Лагойскага раёну Мінскай вобласці ў 6.45.

Пацярпелых няма, усю зброю і боепрыпасы ў затрыманых канфіскавалі.

**БелаПАН**

## У Польшчы забілі беларуса

1 лютага ў Польшчы двое злачынцаў, пераапранутых у паліцэйскую форму, забілі грамадзяніна Беларусі. Як паведамляе *РИА «Новости»*, злачынства ўчынена на аўтадарозе каля гораду Торунь у паўночнай частцы краіны.

Злачынцы спынілі нібыта для кантролю мікрааўтобус, у якім знаходзіліся шэсць грамадзян Беларусі. Адзін з пасажыраў выйшаў даведацца, у чым рэч. Паводле словаў іншых пасажыраў мікрааўтобуса, у яго стрэліў адзін са злачынцаў, пасля чага псеўдапаліцэйскія селі ў машыну і скрыліся. Смяротна паранены мужчына памёр у клініцы. Пра злачынцаў і матывы забойства пакуль нічога не вядома. Вядзецца следства.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Тут быў дом Тадэвуша Касцюшкі



Фота Ул.Шлапака

У нядзелю ва ўрочышчы Мерачоўшчыне блізка Косава была ўрачыста адзначана 256-я гадавіна з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі. Да мемарыяльнага знака на месцы дома Касцюшкі ўсклалі кветкі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Брэсту і Гродна, мясцовай улады, пасольстваў ЗША, Польшчы і Літвы. У косаўскім Доме культуры слова пра Касцюшку сказаў вядомы гісторык, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, адбыўся святочны канцэрт. Тадэвуша Касцюшку лічаць сваім нацыянальным героем у Беларусі, Польшчы, Літве. Злучаныя Штаты, дзе у часе вайны за незалежнасць Касцюшка быў галоўным інжынерам рэспубліканскай арміі, яшчэ пры жыцці ўшанавалі яго ганаровым грамадзянствам, яму стаяць помнікі ў Нью-Йорку і Чыкага. Магчыма, супольнае фінансаванне фондаў і арганізацыяў, якія шануюць памяць Касцюшкі, дазволіць адрадзіць на ранейшым месцы сядзібу славутага Начальніка паўстання 1794 году.

**Аддзел інфармацыі**

## Напалеонаўскія планы ФПБ

5 сакавіка Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская мае намер арганізаваць акцыю пратэсту супраць парушэння правоў працоўных. Арганізатары акцыі разлічваюць сабраць у Мінску да 50 000 чалавек, а па ўсёй краіне – каля 100 000. Акцыя пройдзе пад лозунгам «Не – парушэнню правоў працоўных». Патрабаванні – павышэнне і своечасовая выплата заробкаў.

**Рыгор БУЯН**

# Міліцыя збівае ў шпіталі

Аляксандр Васьковіч накіраваў скаргу ў пракуратуру Пухавіцкага раёну Мінскай вобласці. Скарга тычыцца падзей 22 снежня 2001 году ў Мар'інай Горцы, калі міліцыянты ў прысутнасці медперсаналу жорстка збілі ў райбальніцы 19-гадовага Дзмітрыя Васьковіча. Аляксандр Васьковіч просіць пракуратуру Пухавіцкага раёну Мінскай вобласці даць пракурорскую ацэнку хуліганскім дзеянням асобаў і супрацоўнікаў РУУС г. Мар'іна Горка; прыняць меры пракурорскага рэагавання; распачаць крымінальную справу супраць вінаватых.

22 снежня 2001 году ў Мар'інай Горцы на бацьку Васіля Іванавіча і сыноў Аляксандра і Дзмітрыя напала група п'янай моладзі і справакавала бойку. Васьковічы звярнуліся па дапамогу ў міліцыю. Замест таго каб абараніць, іх затрымалі саміх, а нападнікаў запрасілі ў якасці сведкаў. Калі двое супрацоўнікаў міліцыі даставілі бацьку з сынамі на медыцынскае абследаванне ў райбальніцу, міліцыянты ў прысутнасці медперсаналу жорстка збілі 19-гадовага Дзмітрыя. Аказаць тэрміновую медыцынскую дапамогу юнаку, які ляжаў на падлозе, дзяжурны доктар Кудзелька адмовіўся, матывуючы тым, то хлопец заслужыў гэта, і яму яшчэ «мала далі, бо і сам я ненавіджу ўсіх фронтаўцаў».

Пасля такога «абследавання» ў райбальніцы Дзмітрыя шпіталізавалі ў абласную бальніцу са страсеннем мазгоў і падазрэннем на пашкоджанне нырак. Дарэчы, патрапіў ён туды не адразу, – у такім цяжкім стане яго яшчэ суткі пратрымалі на лаўцы ў раённым аддзяленні міліцыі. Пры гэтым дзяжурны Сіротка на працягу ночы абразліва выказваўся на адрас мясцовых апазіцыянераў, заяўляючы, што калі б на тое была яго воля, дык увогуле пазабіваў бы іх.

24 снежня прыблізна апоўначы група з 10-15 чалавек (хутчэй за ўсё тыя, хто ўдзельнічаў у бойцы) спрабавала ўзламаць дзверы ў кватэру Васьковічаў. Дзверы былі моцна пашкоджаныя, нападнікі таксама абрэзалі тэлефонныя правады кватэр Васьковічаў і іх суседзяў.

Сям'я Васьковічаў звярнулася да начальніка Пухавіцкага РАУС і да галоўнага пракурора раёну з заявай, у якой назвала факты пераследу сям'і. У заяве таксама сказана: «Ідзе адкрыты пераслед нашай сям'і за палітычныя погляды. З боку міліцыі ніякіх захадаў па абароне не прадпрымаецца. Наадварот, перадузятае стаўленне міліцыі да нашай сям'і правакуе сутычкі, якія ствараюць пагрозу нашым жыццям. Просім Вас неадкладна прыняць меры па вышэйзгаданым факце і прыцягнуць вінаватых да адказнасці, а таксама спагнаць з іх матэрыяльныя сродкі на рамонт дзвярэй і тэлефоннай лініі».

**ПЦ «Вясна»**




## Сурок насвістаў доўгую зіму

2 лютага на святкаванне Дня сурка ў Панксатоне (Пенсільванія, ЗША) сабралася больш за 30 тысячаў чалавек. Гэтым разам сурок Філ адкінуў цень перад сабою, і гэта азначала, што Амерыку чакае яшчэ шэсць тыдняў зімы. Каб ніхто не пакваліўся на здабытак нацыі, усіх удзельнікаў свята абшуквала паліцыя, а да самой жывёлінкі прыставілі агента спецслужбаў. Вытокі свята сягаюць да паганскіх прымхаў еўрапейцаў. У Пенсільваніі дзень Філа пачалі адзначаць з 1882 году, калі тут з'явіліся першыя немцы.

## Газ патаннее?

Цана расійскага газу можа знізіцца для Беларусі з 30 да 19 даляраў за тысячу кубаметраў, паведаміў у пятніцу журналістам віцэ-прэм'ер Сяргей Сідорскі. Паводле яго словаў, на сённяшні дзень агульны доўг Беларусі за спажыты газ перад расійскімі пастаўшчыкамі складае 200 млн. даляраў.

## Фізічная праца – толькі па жаданні

Школьнікаў нельга прыцягваць да фізічнай працы без іхнае згоды – такую змену ў Закон аб адукацыі ўвёў Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу. Цяпер бацькі школьнікаў маюць права адмовіцца ад выкладання сваім дзецям асобных дысцыплінаў, аднак гэта будзе датычыць факультатыўных прадметаў.

## Труп у кабіне

Труп грамадзяніна Чэхіі знайшлі ў кабіне грузавога аўтамабіля на мытным тэрмінале ў Жодзіне, перадало радыё «Рацыя». Супрацоўнікі міліцыі паведамілі, што прыкметаў гвалтоўнае смерці ў нябожчыка няма. Тым часам у кабіне аўтамабіля знайшлі прымус. У звязку з гэтым за адну з магчымых версіяў смерці следства разглядае атручэнне прадуктамі гарэння.

## Зімовае танга на 4 колах

Каля 40 спартсменаў узялі ўдзел у другім этапе чэмпіянату па аўтамабільных гонках пераследу «Зімовае танга». Ён прайшоў 3 лютага на мінскім стадыёне «Вікторыя», паведаміў БелаПАН. Уменне адаптавацца да надвор'я і зменлівай трасы будзе адным з найважнейшых складнікаў для перамогі ў другім этапе. Спаборнічаць гоншчыкі будуць на такіх вядомых марках аўтамабіляў, як «Аўдзі», «БМВ», «Пежо», «Форд», «Таёта», «Фальксваген» і іншых.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1670**



# АЭС будаваць не будзем?

Камітэт па энергаэфектыўнасці пры Савеце міністраў Беларусі лічыць немэтазгодным будаўніцтва ў краіне атамнай электрастанцыі. Пра гэта заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску першы намеснік старшыні камітэту Віктар Федасееў.

«У свой час была спецыяльна створана камісія, якая прыняла рашэнне, і ўрад яго падтрымаў: у найбліжэйшыя 8-10 гадоў не пачынаць будаўніцтва атамнай станцыі да таго моманту, пакуль не будзе створана надзейнае абсталяванне, пакуль не выспеюць умовы правільнага псіхалагічнага ўспрымання гэтага аб'екта. Мы, з боку камітэту, лічым, што атамная энергетыка ў агляднай будучыні, да 2025-2030 году, не патрэбная. Ну ўвядзем мы энергаблок магутнасцю 1 мегават і патрацім на гэта 2 млрд. даляраў, не лічачы эксплуатацыйных выдаткаў, расходаў на утылізацыю радыеактыўных адкідаў. Але ў нас ёсць патэнцыял энергазберажэння, які мы ацэньваем у 40%. Рэалізацыя гэтага патэнцыялу запатрабуе значна меншых расходаў», – лічыць Федасееў.

У якасці прыкладу ён прывёў цеплавую рэабілітацыю жыллёвага фонду, большая частка якога страчвае ад 40 да 50% цяпла з-за недасканаласці канструкцый. «Уцеплім хаця б гэтыя дамы – і нам не трэба будзе столькі энергіі», – мяркуе чыноўнік. Паводле яго словаў, існуюць «пэўныя ведамствы», якія лабіруюць будаўніцтва АЭС, – гэтак званыя «атамныя салаўі».

Як паведаміў Федасееў, падчас рэалізацыі праграмы па энергазберажэнні на 2001-2005 гады плануецца шырока задзейнічаць замежныя інвестыцыі. У прыватнасці, у верасні 2001 году Сусветны банк выдзеліў 22,6 млн. даляраў на рэалізацыю праекту «Мадэрнізацыя інфраструктуры сацыяльнай сферы». Праект ахопліве каля 500 аб'ектаў (школы, бальніцы, дзіцячыя дамы, дамы састарэлых) і прадугледжвае ўстаноўку сістэм рэгулявання цепласпажывання, павышэнне тэрмічнага супраціўлення агароджваючых канструкцый, устаноўку вокнаў ПВХ, перавод кацельняў на больш танныя віды паліва і г.д. Агульны кошт рэалізацыі праекту з улікам сродкаў, якія выдзяляюцца беларускім урадам, складзе каля 40 млн. даляраў. Апрача таго, да траўня 2002 году павінна быць завершана работа над праектам па выкарыстанні біямасы – драўняных адкідаў – для цепла- і электразабеспячэння. Праект фінансуецца Глабальным экалагічным фондам Праграмы развіцця ААН і беларускім урадам пры ўдзеле Еўрапейскай эканамічнай камісіі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Абдзіраюць як ліпку

Сёлета ў Гродзенскай вобласці будзе спаганяцца нямала мясцовых збораў і падаткаў. Напрыклад, транспартны збор – 4% ад прыбытку прадпрыемства. Яшчэ 3% – на развіццё гарадоў і раёнаў. Усяго 7.

Гандлярам таксама давядзецца раскашэліцца. За акцызныя тавары – алкаголь і тытунь – трэба аддаць 5% грошай ад продажу. А за імпартныя – удвая болей. За тэлевізары, музычную апаратуру, лядоўні, газавыя пліты, пральныя машыны, футры і дываны трэба таксама мясцоваму бюджэту ахвяраваць 7% ад прыбытку. Наколькі выгадней купіць усё гэта ў суседняй Польшчы, дзе прыблізна пятую частку сумы вам вернуць! Купіў, напрыклад, за 500 даляраў пральную машыну – 100 з іх атрымаеш назад.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Музей Караткевіча адкрыты для наведнікаў

Музей Уладзіміра Караткевіча ў Оршы афіцыйна адчыніўся яшчэ два гады таму, да сямідзесяцігадовага юбілею пісьменніка. Але да гэтай пары ён фактычна не меў ні будынку, ні экспазіцыі.

Цяпер паводле акту ад 23 студзеня будынак прыняты, а загадам па Аршанскім музейным комплексе з 1 лютага музей адчынены для наведнікаў. У аснову экспазіцыі легла часовая выстава, падрыхтаваная да дня нараджэння пісьменніка ў мінулым годзе. З гэтага часу яна была пашыраная і цяпер налічвае каля 500 экспанатаў. Увогуле фонд Караткевіча налічвае каля 1,5 тысячы экспанатаў. Паводле словаў дырэктаркі музея Іны Байковай, праца над заканчэннем сталай экспазіцыі будзе працягвацца.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Найбольш каштоўныя балоты

У 2002 годзе тры рэспубліканскія заказнікі Беларусі будуць прадстаўлены да ўключэння ў Сусветны спіс найбольш каштоўных водна-балотных прыдобаў. На ўключэнне ў спіс прэтэндуюць заказнікі «Ельня» (Міёрскі і Шаркоўшчынскі раёны Віцебскай вобласці), «Асвейскі» (Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці) і «Званец» (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці).

У 1999 годзе Беларусь далучылася да Міжнароднай канвенцыі аб ахове водна-балотных прыдобаў, падпісанай 2 лютага 1970 году ў горадзе Рамсар (Іран). Канвенцыя прадугледжвае ахову забалочаных тэрыторый і вадаёмаў, якія маюць міжнароднае значэнне, галоўным чынам у якасці месца пражывання вадаплаўных птушак. За апошнія два гады тры водна-балотныя прыдобы Беларусі, што складаюць 1% тэрыторыі краіны, уключаны бюро Рамсарскай канвенцыі ў Сусветны спіс найбольш каштоўных водна-балотных прыдобаў. Гэта унікальныя заказнікі «Спораўскі» (19 384 га), «Сярэдняя Прыпяць» (90 447 га) і «Альманскія балоты» (94 219 га), размешчаныя ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях.

**Марат ГАРАВЫ**

# Нацбанк змагаецца з тэрарыстамі

Нацыянальны банк Беларусі прадпісаў банкам краіны прыпыняць спробы фінансавання тэрарыстычных арганізацый. Гэта прадугледжана пастановай праўлення Нацбанку «Аб спыненні прыходных і расходных аперацый па рахунках тэрарыстаў, тэрарыстычных арганізацый і асоб, звязаных з імі».

Як паведаміў БелаПАНу прэс-сакратар Нацыянальнага банку Міхаіл Жураковіч, у дакуменце адзначаецца, што інфармацыя пра гэтыя арганізацыі і асобаў будзе даводзіцца да ведама банкаў галоўным банкам краіны па меры паступлення такіх звестак з міністэрства замежных спраў.

Цяпер, паводле звестак МЗС, павінны быць замарожаны фінансавыя активы афганскага руху «Талібан» і кіраўнікоў УНІТА (у адпаведнасці з рэзалюцыямі Савету бяспекі ААН).

Паводле словаў Жураковіча, Беларусь прызнае прыярытэт прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім нормаў банкаўскага заканадаўства.

Аднак цяпер у Беларусі адсутнічае заканадаўства, якое рэгламентуе парадак выканання некаторых рэзалюцый ААН, у прыватнасці – прававы механізм замарожвання рахункаў узгаданых асобаў, адкрытых у беларускіх банках.

Як паведаміў прэс-сакратар Нацбанку, з улікам гэтага, а таксама ў мэтах абавязковага выканання рэзалюцый Савету бяспекі ААН і была прынята гэтая пастанова праўлення.

**БелаПАН**

# Новыя ахвяры ветру

Больш за дзвесце населеных пунктаў пацярпелі ў ноч на суботу ўва ўсіх абласцях Беларусі з-за праходжання моцнага ветру, хуткасць якога перавышала 20 м/сек.

Найбольшая колькасць пацярпелых населеных пунктаў – 82 – аказалася ў Мінскай вобласці. У Брэсцкай вобласці розныя пашкоджанні атрымалі 30 населеных пунктаў; у Гомельскай – 36, у Гродзенскай – 17; у Магілёўскай – 43. У некаторых рэгіёнах падлічаная папярэдняя шкода. Так, у Гродзенскай вобласці страты склалі 5 мільёнаў рублёў, а на Магілёўшчыне – каля двух мільёнаў.

Сёння ж сталі вядомыя і канчатковыя наступствы ўрагану, які прайшоў па тэрыторыі Беларусі 29-30 студзеня. З-за праходжання моцнага ветру пацярпелі больш за 2 000 населеных пунктаў, загінуў адзін чалавек, 10 сельскагаспадарчых жывёлін. Яшчэ два чалавекі атрымалі траўмы. 25 сельскагаспадарчых будынкаў і адзін жылы дом былі цалкам разбураныя. На працягу трох сутак для ліквідацыі наступстваў надзвычайнай сітуацыі прыцягвалася больш за 1 000 адзінак тэхнікі і каля 4 000 тысяч рабочых і спецыялістаў.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Гінуць коні і каровы

На Гродзеншчыне падчас апошніх ураганных ветраў загінула дзесяць жывёлін. Сем коней у Смаргонскім раёне і тры каровы – у Бераставіцкім. Агульныя страты ад урагану па вобласці склалі каля 400 мільёнаў рублёў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# «Дысплей» працуе поўны тыдзень

Адміністрацыя канструктарскага бюро «Дысплей», якое ўваходзіць у склад вядомага сваімі тэлевізарамі вытворчага аб'яднання «Віцязь», паведаміла калектыву пра вяртанне з 1 лютага да поўнага працоўнага тыдня. Дагэтуль тут працавалі чатыры дні на тыдзень пры зніжаных заробках. Адпаведны загад дырэктар канструктарскага бюро «Дысплей» А.Вайцянкоў выдаў яшчэ ў снежні мінулага году. Нязгодным працаваць і зарабляць менш пагражала звальненне. Падобная форма эканоміі цяпер пашыраная на прадпрыемствах Віцебшчыны.

Пасля ўмяшальніцтва пракуратуры адміністрацыя «Дысплею» мусіла вярнуцца да нармальнага парадку працы.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# Тры гады за марыхуану

Суд Маскоўскага раёну Брэсту асудзіў грамадзяніна Германіі Мікалая Лакоснікава да трох з паловай гадоў пазбаўлення волі, прызнаўшы яго вінаватым у кантрабандзе наркотыкаў. 31 студзеня прысуд уступіў у законную сілу.

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні КДБ па Брэсцкай вобласці, у лістападзе 2001 году 23-гадовы Лакоснікаў вяртаўся з Казахстану ў Германію рэйсавым аўтобусам «Сетра». На пасту мытнага афармлення «Варшаўскі мост» у яго было знойдзена 889 грамаў марыхуаны. Наркотыкі былі расфасаваныя ў шэсць поліэтыленавых пакетаў і схаваныя ў пуховай падушцы сярод асабістых рэчаў у дарожнай сумцы. Пакеты былі абкладзены чырвоным перцам – для таго, каб пах марыхуаны не пачуў сабака. Па гэтым факце была ўзбуджана крымінальная справа па арт. 328 КК Рэспублікі Беларусь (незаконны без мэты збыту набыццё, захоўванне і перавозка наркатычнага сродку ў буйных памерах).

**БелаПАН**

# Чынавенства і эканоміка

Сёлета ў Ашмянскім раёне з раённага бюджэту на фінансаванне «народнай гаспадаркі» прызначана 909 мільёнаў рублёў. Гэта прыблізна 10% ад усіх выдаткаў. Цікава, што на аплату дзяржапарату запланавана каля паловы сумы, якую выдзяляюць галінам вытворчасці. Карацей, на развіццё эканомікі, па сутнасці, прызначана грошай толькі ўдвая болей, чымсьці спажывае чынавенства.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## НАШЫ МЯСТЭЧКІ. ПЕСКІ



Фота Ул.ШЛАПАКА

Неагатычная ўязная брама аздабляе мястэчка ўжо болей за стагоддзе

# У Магілёве затрыманы наркадылеры

Супрацоўнікі ўпраўлення нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў УУС Магілёўскага аблвыканкаму і Ленінскага РАУС Магілёва ў апошнія два дні студзеня 2002 году правялі аперацыю па ліквідацыі гандлю наркатычнымі сродкамі на прывакзальнай плошчы абласнога цэнтру.

Як стала вядома карэспандэнту БелаПАНу, падчас аперацыі былі затрыманы 25-гадовы жыхар Шклова і 32-гадовы жыхар вёскі Ржаўцы Шклоўскага раёну. Пры вобшуку ў іх знойдзены і канфіскаваны 2 кілаграмы марыхуаны. Яшчэ 9 кілаграмаў гэтага рэчыва аказаліся ў доме аднаго з затрыманых. Паводле папярэдняй інфармацыі, тыя вырошчвалі каноплі на прысядзібным участку, завозячы насенне з паўднёвых раёнаў былога СССР, і атрымлівалі марыхуану высокай якасці. Варта зазначыць, што запалкавы карабок марыхуаны на чорным рынку каштуе каля 10 даляраў ЗША.

Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Падлеткі атруціліся цукеркамі

12 школьнікаў сярэдняй школы №2 Бабруйску з прыкметамі харчовага атручэння паступілі 31 студзеня ў дзіцячую інфекцыйную бальніцу. Прычынай атручэння вучняў 6-га класа сталі цукеркі-ледзяніцы, што прадаваліся ў суседнім са школай камерцыйным кіёску. На перапынку школьнікі купілі цукеркі, а хуткім часам адчулі боль у жываце. Усе 12 чалавек былі тэрмінова шпіталізаваны, дзе ім усталявалі дыягназ захворвання – востры гастрыт. У інфекцыйнай бальніцы пацярпелым аказалі неабходную дапамогу, пасля чаго іх самаадчуванне значна палепшылася. Зараз праваахоўныя органы спрабуюць высветліць, як у камерцыйны кіёск трапілі небяспечныя ледзяніцы.

**БелаПАН**

# А.Лукашэнка: прафбосы – «армія гультаёў»?

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падтрымлівае новы парадак выплаты прафсаюзных складак, вызначаны пастановай Савету міністраў ад 14 снежня 2001 году №1804. Пра гэта ён заявіў 1 лютага падчас зацвярджэння кіраўнікоў мясцовай «вертыкалі». Пастанова адмяніла безнаяўны парадак пералічэння складак на рахункі прафсаюзных арганізацый і ўвяла сістэму іх выплаты непасрэдна работнікамі.

«Мы больш складак збіраць не будзем, і гэта жорсткая і рашучая пазіцыя, якая мной падтрымліваецца, – заявіў Лукашэнка. – Складкі павінен плаціць у грамадскай арганізацыі кожны сябра прафсаюзнай або нейкай іншай арганізацыі. Хочаш – плаці, хочаш – не плаці. Гэта тваё права. Вось і дэмакратыя ўся. А так яны дэмакраты, а прымушаюць Лукашэнку выбіваць з рабочых грошы. А я ведаю, куды ідуць гэтыя грошы. Яны правялі перадвыбарную кампанію на грошы Захаду і складкі рабочых, а зараз плачуцца, што ў іх няма грошай. Дык у нас рабочыя самі сябе некаторыя пракарміць не могуць, а то яшчэ гэтую армію гультаёў будуць карміць».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



# Ф.Вітко: «Хай людзі гавораць»



Мы звярнуліся да старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франца Вітко, каб ён пракаментаваў выказванні кіраўніка дзяржавы, якія, відавочна, абражаюць кіраўніцтва ФПБ.

– Словы да справы не падшыеш. Цяпер відавочна, што пастанова Савету міністраў №1804 (аб скасаванні цэнтралізаванага безнаяўнага пералічэння прафсаюзных складак. – **Р.Б.**) прымалася са згоды кіраўніка дзяржавы. Наконт «арміі гультаёў» хай гавораць самі людзі, бо большая частка прафсаюзных узносаў якраз такі і застаецца ў першасных прафсаюзных арганізацыях, каб дапамагаць тым, хто не можа сябе пракарміць.

Трэба зазначыць яшчэ адну акалічнасць: урад выдае супрацьпраўныя пастановы, якія парушаюць два Кодэксы, адзін закон і рашэнне Канстытуцыйнага суду, і ўводзіць адміністрацыйную, крымінальную адказнасць за парушэнне гэтай незаконнай пастановы. Трэба, каб Савет міністраў першым паказваў прыклад выканання закона – і тады б ён меў маральнае права спытаць пра законапаслухмянасць з грамадзянаў.

Пасля выбараў Аляксандр Лукашэнка сказаў: час збіраць камяні, а не раскідаць іх. Думаю, што гэтая пастанова скіраваная якраз на разбурэнне падмурку. Гэты дакумент не стварае ўмоваў для кансалідацыі грамадства дзеля вырашэння вельмі цяжкіх эканамічных праблемаў.

**Рыгор БУЯН**

# Місія АБСЕ ў Мінску

Учора ў Мінск прыбыла дэлегацыя спецыяльнай Рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ на чале з Утай Цапф. Апрача яе, у склад дэлегацыі ўвайшлі Урбан Алін са Швецыі ды парламентарый з Латвіі Хелена Дземакова. У першы ж дзень візіту дэлегацыя сустракалася з Кансультацыйнай радай апазіцыйных палітычных партыяў.

Місія прыехала для вывучэння ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі. Вынікі маніторынгу лягуць у аснову даклада дэлегацыі, які будзе прадстаўлены Пастаяннаму камітэту АБСЕ 21 лютага ў Вене.

Ута Цапф перад прыездам у Мінск так сфармулявала мэты візіту: «Місія Рабочай групы заключаецца ў ацэнцы і абмеркаванні прагрэсу ў галіне ўсталяваных крытэрыяў: празрыстасці выбарчага працэсу, свабоды прэсы і доступу апанентаў да дзяржаўных СМІ, адсутнасці дыскрымінацыі палітычных апанентаў і вызначальных функцый і паўнамоцтваў для парламенту».

**Рыгор БУЯН**

# Калугіна прызналі здаровым

Пасля правядзення судова-медыцынскай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы былы дырэктар ЗАТ «Атлант» Леанід Калугін пераведзены з Рэспубліканскай псіхіятрычнай клінікі, куды ён быў змешчаны 9 студзеня, у следчы ізалятар ГУУС Мінгарвыканкаму.

Нагадаем, што Леанід Калугін абвінавачваецца ў здзяйсненні злачынстваў па артыкулах 424, частка 3 (злоўжыванне ўладай альбо службовым становішчам), 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты) і 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць) Крымінальнага кодэксу Беларусі. Следства ў адносінах да яго вядзе следчая група дэпартаменту фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржкантролю. Узялі пад варту Леаніда Калугіна 21 лістапада 2001 году. Тэрмін яго ўтрымання пад вартай нядаўна быў падоўжаны да 5 месяцаў. Для правядзення экспертызы 9 студзеня яго змясцілі ў ахоўны аддзел Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы. Прычым ні абарона, ні сам Калугін не былі азнаёмлены з адпаведнай пастановай.

Адвакат Аляксандр Пыльчанка раней заявіў карэспандэнту БелаПАНу: «Для таго, каб прызначыць экспертызу і змясціць арыштаванага ў медыцынскую ўстанову, Крымінальна-працэсуальны кодэкс прадугледжвае вынясенне асобнай пастановы следчага і санкцыю пракурора. З гэтым дакументам павінны быць азнаёмленыя як сам абвінавачаны, так і яго абарона. Аднак такой пастановы мы не бачылі, як не бачыў яе і Калугін. Ёсць толькі пастанова аб правядзенні судмедэкспертызы, без указання, якой менавіта – стацыянарнай ці амбулаторнай».

Начальнік дэпартаменту фінансавых расследаванняў Камітэту дзяржаўнага кантролю Генадзь Гапоненка, які праводзіць расследаванне па справе Л.Калугіна, адмовіўся паведаміць карэспандэнту БелаПАНу якія-небудзь звесткі пра ход расследавання і стан здароўя падследнага. Аднак, мяркуючы па тым, што Калугін зноў змешчаны ў следчы ізалятар, можна зрабіць выснову, што экспертыза не выявіла ў яго парушэнняў здароўя.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Перасцярога жанчынам

З пачатку гэтага году на тэрыторыі Беларусі пачала ажыццяўляцца праграма «Ла Страда Беларусь 2002-2004: запабяганне гандлю жанчынамі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе». Мэта – прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы гандлю жанчынамі дзеля іх сексуальнай эксплуатацыі, а таксама аказанне пэўнай прававой, медычнай, псіхалагічнай і сацыяльнай дапамогі пацярпелым жанчынам.

З падзеннем «жалезнай заслоны» вялікая колькасць беспрацоўных мігрантаў з былых сацыялістычных краінаў падалася на пошукі лепшага жыцця ў суседнія развітыя краіны. Для злачынцаў гэта стала новай крыніцай вялікіх прыбыткаў. На жанчын і дзяцей прыпадае 98% гандлю людзьмі. Досыць распаўсюджанай стала схема, калі нейкая фірма арганізоўвае адпраўку за мяжу групы жанчын нібыта для працы, напрыклад афіцыянткамі, а пасля перасячэння мяжы ў іх адбіраюць пашпарты і прымушаюць працаваць у бардэлях. Каб яны не звярнуліся па дапамогу ў паліцыю, іх шантажуюць, пагражаючы жыццямі іхных сваякоў, што засталіся дома. Так, па звестках Міжнароднай арганізацыі па міграцыі, у краіны Еўрапейскага Саюзу для сексуальнай эксплуатацыі было вывезена да 500 тысяч жанчынаў.

Праграма «Ла Страда» пачала працаваць у 1995 годзе ў Польшчы і Чэхіі. Пазней да іх далучыліся Галандыя, Балгарыя і Украіна. За гэты час дапамогу атрымалі 817 ахвяраў трафікераў (так называюць гандляроў «жывым» таварам). Пераважна гэта ўкраінскія жанчыны – іх 326, на другім месцы полькі – 276 ахвяраў, на трэцім чэшкі – 138 жанчынаў. Такім жанчынам пасля прыбыцця на радзіму неабходна дапамога псіхолага, медыкаў, а калі яны выступаюць сведкамі супраць сваіх «гаспадароў» – яшчэ і ахова ад магчымай помсты з іх боку. Вяртаючыся, пасля ўсяго, што ім давялося перажыць, жанчыны часта знаходзяцца ў такім псіхалагічным стане, што для іх поўнай рэабілітацыі спатрэбіцца не менш як 2 гады.

На Беларусі займацца рэалізацыяй гэтай праграмы будзе «Беларуская арганізацыя маладых хрысціянскіх жанчын». У 2001 годзе яна арганізавала «гарачую» тэлефонную лінію для тых, хто збіраецца на працу ў замежжа, і выдала інфармацыйны зборнік пра ўмовы знаходжання ў 6 еўрапейскіх краінах. Па выніках году на інфалінію патэлефанавала 1 106 чалавек. Прааналізаваўшы атрыманую ад іх інфармацыю, спецыялісты прыйшлі да пэўных высноваў: самая папулярная краіна для пошуку працы ў беларусак – Германія, ёй саступаюць ЗША і Ірландыя; найбольш актыўна імкнуцца за мяжу жанчыны ў веку 21–30 гадоў, а таксама беспрацоўныя і жанчыны, якія дома зазнаюць гвалт.

**Алена ЛАБАНАВА**




# Паскардзіўся ў ААН – і перамог

Кіраўніку маладзечанскай (Мінская вобласць) арганізацыі БНФ Алесю Капуцкаму пры дапамозе Камітэту па правах чалавека ААН удалося вярнуць штраф, выплачаны ім у выніку незаконнай пастановы суду.

Як расказаў Капуцкі ў інтэрв'ю БелаПАНу, у Камітэт па правах чалавека ААН ён звярнуўся пасля таго, як прайшоў усе судовыя інстанцыі ў Беларусі. У кастрычніку 2000 году падчас кампаніі байкоту апазіцыяй парламенцкіх выбараў яго затрымала міліцыя за расклейку ўлётак з заклікам не ўдзельнічаць у галасаванні. 16 лістапада 2000 году адбыўся суд, які прызнаў яго вінаватым ва ўчыненні адміністрацыйнага правапарушэння (частка 3 артыкулу 167 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях) і пастанавіў аштрафаваць на два мінімальныя заробкі. Суд прайшоў без прысутнасці Капуцкага, што не дапускаецца заканадаўствам. Ён абскардзіў гэтую пастанову. Аднак і Мінскі абласны суд, і Вярхоўны суд пакінулі пастанову ў сіле.

Капуцкі мусіў выплаціць штраф, аднак вырашыў звярнуцца ў міжнародныя структуры і вясной 2001 году накіраваў скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Праз некаторы час скарга была прынята да разгляду. Неўзабаве з камітэту прыйшоў адказ, што справа разгледжана і ў адпаведнасці з міжнародным заканадаўствам Капуцкі прызнаны невінаватым ва ўчыненні правапарушэння.

З ААН дакументы паступілі ў Вярхоўны суд Беларусі. Той адмяніў пастанову маладзечанскага суду, бо ў новай рэдакцыі Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях частка 3 артыкулу 167 выкладзена ў новай рэдакцыі: адміністрацыйная адказнасць за публічныя заклікі да байкоту выбараў не прадугледжана. Парушэннем прызнана і тое, што суд прайшоў завочна.

Алесь Капуцкі звярнуўся ў мясцовыя органы ўлады, і некалькі дзён назад яму вярнулі грошы, выплачаныя ў выглядзе штрафу.



Цяпер Капуцкі накіраваў у ААН новую скаргу – у сувязі з яго затрыманнем 25 сакавіка 2000 году падчас акцыі апазіцыі ў Дзень Волі ў Мінску. Двое сутак ён знаходзіўся ў спецпрыёмніку-размеркавальніку, пасля чаго суд вынес яму папярэджанне, якое апазіцыянер беспаспяхова спрабаваў абскардзіць аж да Вярхоўнага суду.

Паводле словаў Капуцкага, ён пераконвае ўсіх сваіх калег па апазіцыі, якія зазналі адміністрацыйныя пакаранні, у неабходнасці даводзіць да канца ўвесь «ланцуг» абскарджванняў і ў выпадку, калі беларускія суды пакінуць скаргі без задавальнення, накіроўваць іх у Камітэт па правах чалавека ААН.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Саюзны падвох?

Пункт пропуску «Новая Гута» на беларуска-ўкраінскай мяжы цалкам здалі ў эксплуатацыю напрыканцы мінулага году. Ён узведзены за 35 кіламетраў ад Гомелю на так званым шляху сёмага міжнароднага калідору, які праз Беларусь злучае шэраг рэгіёнаў Украіны, Малдову, Балканскія дзяржавы з Прыбалтыкай і Расіяй. Дарэчы, да будаўніцтва фінансава спрычынілася і суседняя Расія, чый сцяг таксама лунае над памежным пераходам.

У сучасных памяшканнях размясціліся службы мытнага, памежнага, санітарна-эпідэміялагічнага, радыяцыйнага і ветэрынарнага кантролю.

Цырымонія адкрыцця пункту, асабліва першай яго чаргі, была надзвычай шыкоўнай і прадстаўнічая. Удзел у ёй бралі кіраўнікі мытнага і памежнага ведамстваў Беларусі, прадстаўнікі памежных службаў Украіны і Расіі.

Пры гэтым асабліва падкрэслівалася, што фінансавалася новабудоўля і з саюзнага беларуска-расійскага бюджэту.

Аднак пасля фанфараў будаўнікі, што ўзводзілі памежны пункт, замаркоціліся. І ў першую чаргу генпадрадчык у асобе начальніка будаўніча-мантажнага цэху № 716 трэста «Белтрансбуд» Міхаіла Мельнічэнкі. За здадзены аб'ект з саюзнага бюджэту мытнікам не паступілі абяцаныя 400 мільёнаў рублёў, а мытнікі ў сваю чаргу, як заказчыкі, не разлічыліся з калектывам БМП. Гэта тым больш прыкра, што з мінулага верасня будаўнікоў вымушалі працаваць у рэжыме аўралу, літаральна дзень і ноч.

Напрыканцы студзеня Міхаіла Мельнічэнку запрасілі ўжо ў падатковую інспекцыю і папярэдзілі, што за няўплачаныя даўгі будзе апісана пад заклад вытворчая база БМП № 716 у Калінкавічах.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# Шахцёры нацэліліся на бестэрміновы страйк

Аб'яўлены на 1 лютага з 12.00 да 12.05 папераджальны страйк на вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій» не адбыўся. Замест таго два прафкамы, што дзейнічаюць на прадпрыемстве, – Беларускага незалежнага прафсаюзу і прафсаюзу работнікаў хімічнай, горнай і нафтавай галінаў прамысловасці ФПБ распачынаюць калектыўную працоўную спрэчку з адміністрацыяй «Беларуськалію» і рыхтуюць бестэрміновы страйк.

31 студзеня і 1 лютага прафкамы спрабавалі ўрэгуляваць спрэчныя праблемы ў рамках калектыўнай дамовы за «круглым сталом» з адміністрацыяй «Беларуськалія». «Аднак надзею на паспяховае вырашэнне гэтых праблемаў няма ніякіх. Мы збіраемся распачаць падрыхтоўку да бестэрміновага страйку», – заявіў старшыня БНП Віктар Бабаед.

Цікава, што на 7 іншых прадпрыемствах Салігорску – «Калінцы», «Купалінцы», на будаўнічых прадпрыемствах, у медыцынскіх ды адукацыйных установах – у аб'яўлены час на пяць хвілінаў праца спынялася.

**Рыгор БУЯН**

# Караеды

## *У Белавежскай пушчы крадуць яе прыгажосць і багацце*

*28-29 студзеня ў Палацы Еўропы ў Страсбургу на паседжанні Камітэту садзейнічання Савету Еўропы ў галіне біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці (Co-DBP) заслухалі справаздачу эксперта Чарльза Цымера (Люксембург) аб становішчы ў Белавежскай пушчы.*

Цікавасць замежных эколагаў да Нацыянальнага парку Беларусі выклікана заканчэннем першага тэрміну дзеяння Еўрапейскага Дыплому для ахоўных тэрыторый. Гэту ўзнагароду Белавежская пушча атрымала ў 1997 годзе, адначасова з Нацыянальным Белавежскім паркам на тэрыторыі Польшчы. Напярэдадні з Беларусі ў Страсбург быў накіраваны пісьмовы Зварот прадстаўнікоў айчыннай інтэлігенцыі з настойлівай просьбай не працягваць для пушчы тэрмін дзеяння дыплому ЕС у сувязі з прамысловай нарыхтоўкай тут «жывой драўніны». Але еўрапейскія эксперты палічылі за лепшае пакінуць сабе права доступу і кантролю за найстарэйшым лесам кантыненту. Падоўжаны тэрмін дзеяння Еўрадыплому да 2005 году – своеасаблівы пропуск для незалежных інспекцый у Белавежскую пушчу, якую на ўсё большых прасторах адгароджваюць ад людзей калючым дротам, металічнай сеткай і драўляным плотам.

### Лесапавал з 80 000 кубаметраў

Беларускі Нацыянальны парк – вынік падзелу вялікага Белавежскага лесу (Белавежскай пушчы) на дзве часткі ў 1945 годзе. 55 000 гектараў засталіся ў валоданні Польшчы, 70 500 гектараў адышлі да СССР. У новым савецкім запаведніку практыкаваліся толькі санітарныя высечкі і высечкі догляду, арыентаваныя на мёртвыя альбо хворыя дрэвы, а таксама ветрапавал. У 1957 годзе Белавежская пушча змяніла свой статус і стала паляўнічым запаведнікам, а ў 1989 годзе плошча запаведніка павялічылася да 87 600 гектараў. Нарэшце, у 1991 годзе, пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь, запаведнік набыў статус Нацыянальнага парку. План яго развіцця быў складзены на перыяд 1992-2012 гадоў. А нядаўна, у сувязі з няспынным абвастрэннем крызіснай сітуацыі ў краіне і скарачэннем долі бюджэтнага фінансавання навукі, доўгатэрміновую праграму перагледзелі. Унікальную прыродную лабараторыю пераарыентавалі больш на эканамічную дзейнасць. Ну а паколькі рэальныя грашовыя прыбыткі парку за кошт турызму забяспечваюцца пакуль мізэрна, то пад спадзяванні «залатога дажджу» купілі лесазавод у Нямеччыне. Ён, хоць і не новы, каштаваў 3,5 мільёну дойчмарак; прадавец пагадзіўся атрымаць адну частку гэтай сумы ў растэрміноўку пад валютны крэдыт, а другую – піламатэрыяламі экспартнай якасці. Каб не затрымліваць разлікаў па даўгах, лес з пушчы даводзіцца пілаваць у дзве змены, у аб'ёме 80 тысячаў кубаметраў у год.

### Хто больш пражэрлівы: жук ці чалавек?

Фаўна беспазваночных у пушчы налічвае 10 000 відаў, сярод іх 8 500 насякомых. Караед сярод іх быў заўжды. Гэта чорны жучок, даўжынёю свайго цыліндрычнага цела ад 0,8 да 12 міліметраў, жыве пад карою і точыць яе, пакідаючы характэрны малюнак прагрызеных хадоў; за гэта ён атрымаў дадатковую назву тыпографа. Хаця караед не адмаўляецца грызці гнілыя пні і сцёблы травяністых раслінаў, але ў пушчы жучок «прысватаўся» да елак старога веку. У вечназялёных прыгажунь яшчэ раней пачаліся праблемы са здароўем, калі з-за маштабнай меліярацыі ў навакольных калгасах Вялікі Лес адчуў недахоп вільгаці. І ўсё ж прырода звычайна сама рэгулюе колькасць караеда: як семкі, яго «лускаюць» птушкі, а пераважна забівае зімовы мароз. Калі ж клімат мяккі, то ўмяшанне чалавека ва «ўспышку» размнажэння ляснога шкодніка абмяжоўваецца развешваннем фермонных (з атрутай прывабнага паху) лавушак. Як прынаду падкідваюць падгнілыя ствалы альбо высякаюць дрэва, ля камля якога заўважылі буравую муку са «сталоўкі» караеда. На жаль, з усіх разнастайных магчымасцяў барацьбы з караедам у пушчы спыніліся на самым варварскім – пад корань спілоўваюць не толькі паражоныя дрэвы, але і набліжаныя да ачагу.

### Хто сячэ, той не ахоўвае

Несумненна, Нацыянальны парк «Белавежская пушча» мае вялікую цікавасць для Еўропы. Хоць савецкія ўлады і адмежавалі яго ў 1980 годзе ад польскае паловы калючым дротам, але ён усё ж захоўвае большую палову першабытнага лесу. Між тым праграма Нацыянальнага Белавежскага парку ў Польшчы што да экалагічнай і турыстычнай дзейнасці вядомая больш, чым яе беларускі аналаг. Палякі цяпер адваявалі прыдобы ў лесапрамыслоўцаў. Дзеля пашырэння парку адбыліся нават дэманстрацыі ў Варшаве перад Домам ураду. Улады Беларусі быццам бы таксама вызначыліся ў сваім намеры працягваць далучаць новыя ўчасткі сельгаспрыдобаў. У прыватнасці, ад суседніх калгасаў «Ленінскі камсамол» і «Новая крыніца» пушчы перадалі больш як 2,5 тысячы гектараў. Шарашоўскі лес, які ўяўляе буферную зону ў паўднёва-ўсходняй частцы парку, ператвораны зараз у паляўнічую гаспадарку, 3 000 гектараў якой адгарадзілі высокай металічнай сеткай. Адселеныя ў палон алені, дзікі, козы служаць жывымі мішэнямі для адстрэлу за грошы заможнымі аматарамі палявання. На далучаных поймах рэкаў Калонка і Нараў і на землях балота Дзікага, што асушаюцца цяпер, таксама плануецца гаспадарчая дзейнасць. Увогуле, значнае пашырэнне тэрыторыі Нацыянальнага парку адбываецца пад лозунгам заахвоціць да працы насельніцтва 22 пушчанскіх вёсак, дзе пражывае 30 000 чалавек.

А хіба не факт на карысць умацавання лесапрамысловасці ў пушчы, што за 5 апошніх гадоў тут зменены 4 дырэктары? Адшукалі нарэшце на гэтую пасаду Мікалая Бамбізу, які за 20 гадоў працы ў Прыпяцкім запаведніку здабыў аўтарытэт моцнага гаспадарніка. Яго першыя спрэчкі на новым месцы скончыліся заўчасным спыненнем працоўнага кантракту з намеснікам па навуцы Рыгорам Казулькам. Кандыдат біялагічных навук і адзіны англамоўны супрацоўнік апынуўся сярод беспрацоўных, як і яшчэ 160 іншых чалавек. Людзі з пушчы, па меркаванні М.Бамбізы, адвыклі ад цяжкай працы ў лесе. Таму, як некалі на меліярацыйныя будоўлі беларускага Палесся, пацягнуліся на ўдарны лесапавал у пушчы ахвотнікі да «доўгага рубля». З пілкамі-шведкамі перакачавалі сюды лесарубы з Гомельскай вобласці, а на лесазавод – нанятыя 60 «шабашнікаў» з густанаселеных вёсак Століншчыны.

**Галіна БАРАВАЯ**


Фота IREX ProMedia

# Беларусь – перапыненая рэвалюцыя

*Тое, што мы ідзём адмысловым шляхам, ясна кожнаму. Іншая рэч, ці кожны разумее, куды, а галоўнае, чаму? Ну чаму ўся Еўропа крочыць не ў нагу з намі? Чаму ў нас то рынкавы сацыялізм, то лібералізацыя? А днямі ўключаю тэлевізар – дэлегацыя з Кітаю вярнулася. Здагадаліся? Прапаноўваюць актыўна ўкараняць кітайскую мадэль. Што гэта? Адпрацоўка камандзіровачных ці сапраўды чарговы новы курс? Паспрабуй разбяры!*

Але перш чым вывучаць досвед Паднябеснай, прапаную ўважліва паглядзець на суседзяў. На Расію, напрыклад. Падзеі, якія адбыліся там за апошнія 15 гадоў, – гэта, па сутнасці, рэвалюцыя. Пералічу асноўныя складнікі «джэнтльменскага рэвалюцыйнага набору».

Па-першае, змены насілі глабальны характар, яны закранулі ўсе бакі палітычнага і эканамічнага жыцця грамадства. Па-другое, крызіс быў выкліканы чыста ўнутранымі прычынамі, таму выхад з яго запатрабаваў перагляду ўсіх падставовых каштоўнасцяў, адмовы ад старых ідэалагічных догмаў.

Па-трэцяе, крызіс праходзіў ува ўмовах слабой дзяржавы, адгэтуль стыхійнасць працэсаў, непадкантрольная інфляцыя, непаслушэнства рэгіёнаў і г.д.

Сёння для Расіі ўсё гэта ў мінулым. Анекдот пра перабудову, калі ў кронах дрэваў шуміць вецер, а ўнізе ціха, на практыцы не пацвердзіўся. Краіна прайшла цераз шэраг забурэнняў, і толькі заканчэнне перадзелу ўласнасці прывяло да стабілізацыі, дый народ стаміўся ад хаосу.

Літва, наш паўночны сусед, былы партнёр па ВКЛ, не стала капіяваць расіян. Гады савецкай улады тут заўсёды разглядаліся як гады акупацыі. Літва вярнулася ў мінулае, каб не спазніцца на цягнік, які адыходзіць у будучыню, у аб'яднаную Еўропу. Разам з іншымі прыбалтыйскімі рэспублікамі ёй гэта ўдалося.

Працэс распаду СССР застаў Беларусь прыкладна ў тым жа стане, што і Расію. Крызіс улады быў відавочны. Незалежнасць, зваліўшыся немаведама адкуль, толькі яшчэ больш нахілу... вярнула на бок флагманскі карабель. Капітан не змог з'яднаць каманду, якая страціла апошнюю веру ўва ўласныя сілы. Прыгадайма вынікі галасавання ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў 1994 году:

| | |
|---|---|
| Лукашэнка | 45,1% |
| Шушкевіч | 9,9% |
| Кебіч | 17,4% |
| Дубко | 6% |
| Пазьняк | 12,9% |
| Новікаў | 4,6% |

Калі скласці разам галасы Пазьняка і Шушкевіча, мы не набярэм і чвэрці ад удзельнікаў галасавання. Усе астатнія кандыдаты выступалі за вяртанне ў сацыялізм (тады яшчэ без ніякага рынку), і ўсе яны глядзелі на Расію як на гаранта рэстаўрацыі і дыктатуры пралетарыяту. Ці магла ў такім грамадстве прыйсці да ўлады каманда, здатная праводзіць ліберальныя рэформы? Ніколі! Але нават калі б гэта сталася, то ўжо першыя цяжкасці, выкліканыя рэформамі, змялі б усіх разам з капітанскім мосцікам. Без пэўнага ўзроўню згоды ў грамадстве ніякая палітыка немагчымая ўвогуле, пагатоў палітыка выхаду з крызісу.

Але чаму перамог якраз Лукашэнка? 81% супраць 14,2% у другім туры. Поўны разгром, і гэта перамога над дзеючым прэм'ер-міністрам! А дзе ж адміністрацыйны рэсурс? Ён быў – пачытайце тагачасныя дзяржаўныя газеты. Аднак ува ўмовах вострых сацыяльных крызісаў наступае момант, калі дзеянні уладаў ужо не маюць значэння. Улетку 1994 году Кебіч мог уводзіць адзіны рубель, падпісваць любыя саюзныя дамовы. Асабіста для яго ўсё было вырашана.

Але чаму перамог якраз Лукашэнка? А што найбольш хвалявала насельніцтва ў 1994 годзе? Вы думаеце – рост цэнаў, інфляцыя? Не: згодна з сацапытаннямі, людзі перадусім баяліся карупцыі. Для савецкага ладу жыцця неабходны вораг, бо як інакш растлумачыць разыходжанне паміж тэорыяй і практыкай? Перабудова скасавала *NATO*, і народ сам прызначыў пераемніка. Хто ж яшчэ мог выклікаць хаос?! Галасуючы за Лукашэнку, народ выбіраў маладога рашучага гаспадара, не звязанага са старой наменклатурай. Электарат галасаваў за парадак, але парадак звыклага савецкага ўзору. Не дзіва, што пасля выбараў каманда пераможцаў хутка распалася. На каго мог абаперціся рэстаўратар мінуўшчыны, як не на старую гвардыю? Ён так і зрабіў.

Рэвалюцыя захлынулася. Дзяржава (чыноўнікі) засталася пры сваім (дзяржаўнай уласнасці). Выгадаванага ўва ўласным асяроддзі прэм'ера змяніў немаведама адкуль узяты «бацька». «Новай» уладзе ўдалося стабілізаваць становішча ў краіне. За сем гадоў рэйтынг Лукашэнкі практычна не апускаўся ніжэй за 40%. Але што значыць стабільнасць? Бывае стабільнае развіццё, але бывае і стабільная дэградацыя. Нават Савецкі Саюз з яго рэсурсамі не стаў самадастатковай дзяржавaю. Калі ў 1980-х гадах цэны на нафту знізіліся (рэкорд 70-х – 70 даляраў за барэль), Гарбачоў мусіў пайсці на перабудову. З гэтага ўсё і пачалося.

Неэфектыўнасць беларускай (па сваёй сутнасці савецкай) эканамічнай мадэлі сёння зразумелая для ўсіх. Памятаеце старую рэкламу: «Пры ўсім багацці выбару – другой альтэрнатывы няма!» Сёння няма выбару ўвогуле. Суседзі даўно вызначыліся. Польшча і Літва праз два гады стануць сябрамі ЕС. Расія і Украіна поўным ходам уніфікуюць сваё заканадаўства з Еўропай. Таму куды ісці Беларусі – зразумела, вось толькі пад чыім кіраўніцтвам і з якой хуткасцю? Пытанні гэтыя ўзаемазвязаныя. Апошнія прэзідэнцкія выбары паказалі – прыхільнікаў курсу Лукашэнкі па-ранейшаму большасць.

Раскол грамадства адбываецца не па лініі асабістых сімпатыяў да прэзідэнта. Падобны малюнак назіраўся і сем гадоў назад. Вядома, ярых прыхільнікаў Лукашэнкі паменела, але «крытычная маса» для змены сітуацыі пакуль яшчэ не набралася. Як доўга працягнецца цяперашняе становішча? Усё залежыць ад таго, колькі патрывае беларуская стабільнасць. Калі эканоміка спікіруе, то следам за ёю спікіруе і народная любоў. Прызначыць казла адпушчэння ў цяперашніх умовах улада наўрад ці здолее. Але ці магчымая ў Беларусі «рэвалюцыя зверху», калі рэформы хутка і рашуча праводзіць сама ўлада? Хутка і рашуча Лукашэнка здатны толькі «строіць» вертыкальшчыкаў. З рэформамі ў яго не выходзіла і не выйдзе.

Якія яшчэ варыянты? Працытую дырэктара НІСЭПД прафесара Алега Манаева. «Прэзідэнт і яго атачэнне разважаюць так: «Калі прыхільнікі рынкавай эканомікі нас не любяць, то, пачаўшы рынкавыя рэформы, мы неўзабаве акажамся непатрэбныя і такім чынам самі прывядзем да ўлады апазіцыю». Але ж можна разважаць і проста супрацьлеглым чынам: «Прыхільнікі рынкавых дачыненняў... робяцца праціўнікамі прэзідэнта якраз таму, што яго палітыка перашкаджае іх магчымасці палепшыць сваё жыццё. Калі б прэзідэнт стаў праводзіць рэальныя эканамічныя рэформы, іх прыхільнікі аказаліся б на ягоным баку...»

Іншымі словамі, у нас ёсць шанс жыць у нармальнай краіне, але з Лукашэнкам. Сумняюся. Ды ўлада пойдзе на саступкі. Марудна, але пойдзе. Ёй проста няма дзе падзецца. Яна і сёння, выплачваючы бюджэтнікам абяцаныя 100 даляраў, займаецца гэтым. Але новых прыхільнікаў яна сабе не заваёўвае, хутчэй наадварот. Так было паўсюль і заўсёды. Па меры скасавання расавых законаў у ЗША хваля беспарадкаў з боку чарнаскурых нарастала. Кожная саступка Ізраілю абяртаецца новымі патрабаваннямі Палесціны. Падвядзем вынік: улада мае шанс дажыць да чарговых выбараў, але чарговая перамога пад вялікім пытаннем. Да таго часу стомяцца і каравул, і народ. З якога, між іншым, складаюцца і выбарчыя камісіі. Калі да выбараў эканоміка сарвецца ў штопар, то ўзнікне працьма няпэўнасцяў як для палітычных персонаў, так і для народу ў цэлым. У любым выпадку катапультавацца народу не будзе куды.

Усё зможа канчаткова супакоіцца ў Беларусі толькі на расійскі ўзор. Вось толькі новая эліта, якая стабілізуе грамадства і пераразмяркуе ўласнасць, будзе не мясцоваю. У гісторыі славян варажскі варыянт развіцця ўжо быў.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# Мілошавіч застанецца ў Гаазе назаўсёды

*Галоўны пракурор Гаагскага трыбуналу Карла дэль Понтэ дамаглася, каб суддзі разгледзелі злачынствы былога югаслаўскага лідэра ў Косаве, Харватыі, Босніі і Герцагавіне ў адным працэсе. Гэта значыць, што суд над Мілошавічам можа зацягнуцца на некалькі гадоў, а ў прысудзе ў любым выпадку будзе фігураваць генацыд. Для Мілошавіча гэта азначае толькі адно – пажыццёвае зняволенне.*



Спачатку Гаагскі трыбунал па былой Югаславіі збіраўся выдзеліць у асобны працэс слуханні аб падзеях у Косаве ў 1998–1999 гг. Мілошавічу прад'явілі абвінавачанні ў ваенных злачынствах, у тым ліку ў масавых забойствах і выгнанні з краю каля 740 тыс. мірных жыхароў. Аднак Карла дэль Понтэ, якая выступае ў ролі галоўнага абвінаваўцы, не змагла кваліфікаваць гэтыя дзеянні як генацыд, дакладнае азначэнне якога дадзена ў Жэнеўскіх канвенцыях 1949 году. Мяркуючы паводле заяваў дэль Понтэ, абвінавачанні ў генацыдзе могуць быць прад'яўлены Мілошавічу толькі па падзеях у Босніі і Герцагавіне 1992–1995 гг., дзе мелі месца «зверствы сербскіх вайскоўцаў у дачыненні да харватаў і мусульманаў».

Калі б было вырашана праводзіць два судовыя працэсы – спачатку па Косаве, а потым па Харватыі і Босніі, – то ў першым выпадку Мілошавіч мог бы спадзявацца на адносна лёгкі прысуд.

Не выключана, што з дапамогаю адваката ён мог бы скарыстаць гэты шанс і дамагчыся ад Гаагскага трыбуналу паблажак. Дарэчы, тры дні назад экс-прэзідэнт Югаславіі ўпершыню пайшоў насустрач суддзям і папрасіў іх адпусціць яго на свабоду ўзамен на абяцанне з'яўляцца ў суд па першым патрабаванні. Раней ён увогуле адмаўляўся гутарыць з прадстаўнікамі трыбуналу, так што гэты крок быў адназначна патлумачаны як прызнанне Мілошавічам легітымнасці суду над ім.

Але для дэль Понтэ прынцыпова важна надоўга пасадзіць Мілошавіча за краты з першай спробы. Ад самага пачатку галоўны пракурор трыбуналу патрабавала аб'яднаць працэсы. Па яе словах, усе злачынствы Мілошавіч здзяйсняў «у рамках адной стратэгіі, адной схемы», жадаючы стварыць «Вялікую Сербію» шляхам «гвалтоўнага выгнання нясербскага насельніцтва». Ёй пярэчылі, што следства па падзеях у Харватыі і Босніі яшчэ не скончана і можа расцягнуцца на чатыры гады, а судовы працэс па Косаве мусіць пачацца ўжо 12 лютага. Яшчэ адзін аргумент пракурора – бяспека сведкаў. Па яе словах, супрацоўніцтва з судом у справе Мілошавіча ставіць іх жыццё пад пагрозу і лепш выклікаць іх у суд адзін раз па двух абвінавачаннях, чым дапытваць двойчы. Першае хадайніцтва дэль Понтэ пра аб'яднанне працэсаў было адхілена, але яна абскардзіла гэтае рашэнне ў апеляцыйнай радзе ваеннага трыбуналу ААН. У пятніцу тая прыняла рашэнне задаволіць яе патрабаванне. Як паведаміў прадстаўнік суду Джым Лэндэйл, сябры рады падтрымалі дэль Понтэ аднагалосна.

Нягледзячы на аб'яднанне абвінавачанняў, працэс, як і планавалася, пачнецца 12 лютага. Першыя слуханні будуць прысвечаны дзеянням Мілошавіча ў Косаве.

Да падзеяў у Босніі і Харватыі суддзі змогуць прыступіць прыкладна праз паўгода. Дэль Понтэ паведаміла, што абвінавачанне пастараецца паспець падрыхтаваць усе неабходныя матэрыялы па гэтай частцы працэсу да 1 ліпеня, а спіс сведчанняў і рэчавых доказаў будзе прадстаўлены суду яшчэ раней – да 1 красавіка. Сам Мілошавіч, вядома, супраць такога ходу падзеяў: «Склаўшы разам тры хлусні, вы не атрымаеце праўды, вы толькі павялічыце хлусню», – заявіў ён, даведаўшыся пра зварот дэль Понтэ ў апеляцыйную раду ваеннага трыбуналу ААН.

**Марыя ЦВЯТКОВА**

# Тэлевізійныя войны ў Расіі

**Грыгорый ЯЎЛІНСКІ, дэпутат Дзяржаўнай Думы і лідэр ліберальнай партыі «Яблоко»**

*Закрыццё ТВ6 у многім адлюстроўвае тыя негатыўныя працэсы, якія адбыліся ў Расіі пасля 1991 году. Многія падзяляюць віну за памылкі, якія былі дапушчаны з моманту падзення камунізму. Сапраўды, персанажы, уцягнутыя ў канфлікт вакол ТВ6, з'явіліся побач з намі з тых часоў. Сквапнасць, улада і эгаізм захапілі электронныя сродкі масавай інфармацыі, як і ўсе астатнія сферы посткамуністычнага жыцця. Няўклюднае закрыццё НТВ і ТВ6 найлепш ілюструе тэндэнцыю, што рух да стабільнасці ў Расіі ідзе з перапынкамі, і абодва інцыдэнты сведчаць пра непаслядоўны падыход Пуціна да ажыццяўлення перамен у Расіі.*

За гэтае дапушчэнне прамаўляюць хутчэй эмоцыі, выкліканыя апошнімі падзеямі, чым рацыянальныя довады. Свабода слова сапраўды зазнала шкоды, але гэта не азначае вяртання да таго кантролю над думкамі, які існаваў у савецкую эпоху. Як расійскі ўрад, так і рынак працягваюць адкрываць для сябе, што ж такое насамрэч свабода сродкаў масавай інфармацыі.

Некаторыя ўрады лічаць, што «свабодныя СМІ» існуюць на тое, каб хваліць і ўзвышаць паноўную эліту. Некаторыя «новыя рускія» бачаць у СМІ прыладу для ўзбагачэння і прасоўвання сваіх прыватных амбіцыяў за кошт інтарэсаў грамадства. Насамрэч галоўнай прычынай канфлікту вакол ТВ6 былі грошы. Пасля таго як пад канец сакавіка адкрыецца конкурс на вяшчанне, кожны, хто б ні атрымаў ліцэнзію, можа быць упэўнены ў высокіх прыбытках ад рэкламы на канале. Магчыма, Крэмль быў заклапочаны якраз гэтай праблемай, калі разглядаў пытанне кантролю над каналам ТВ6, свайго роду курыцай, якая нясе залатыя яйкі.

Усяго некалькі дзён назад прэзідэнт Пуцін і прэм'ер Міхаіл Касьянаў заявілі, што іх дзеянні былі прадыктаваныя жаданнем абараніць супрацоўнікаў ТВ6. Велікадушныя словы Пуціна пра канал прагучалі, як заўсёды, падчас замежнае паездкі. (Часам мне здаецца, што для дабрабыту Расіі было б лепш, каб яе прэзідэнт кіраваў краінаю з ідэальнага заходняга асяроддзя.) Але ў сапраўднасці словы прэзідэнта засталіся пустым гукам, які прыкрываў асабістую помсту алігарху Барысу Беразоўскаму (уладальніку ТВ6). Такія паводзіны несумяшчальныя з воблікам дзяржаўнага дзеяча.

Бясспрэчна, ад Барыса Беразоўскага належыць патрабаваць падпарадкавання закону, але, як гэта ўжо шмат разоў здаралася ў расійскай гісторыі, цана аказалася вышэйшаю за мэту. Пуцінскі Крэмль і яго міністр друку насмяяліся з закону, павярнуўшы яго гэтак, каб дамагчыся ўласных мэтаў і спыніць кантроль над каналам з боку Беразоўскага.

Тым не менш так званыя ахвяры дзеянняў дзяржавы ў дачыненні да ТВ6 самі не бязвінныя. Многія журналісты ТВ6 проста выконвалі заказ на слоўную вайну супраць прэзідэнта Пуціна, калі працавалі на НТВ, канале, які стаў першай мішэнню расійскага прэзідэнта і ягоных міністраў. НТВ і ТВ6, магчыма, адкрываюць больш праўды пра вайну ў Чачні, чым дзяржаўнае тэлебачанне; акрамя таго, абодва каналы зацьмілі сваіх канкурэнтаў, выкрываючы факты карупцыі сярод дзяржаўных чыноўнікаў. Аднак кожны канал скарыстаў журналістыку дзеля службы асабістым амбіцыям, што мала розніцца ад паслужлівай журналістыкі, якая знаходзіцца пад уладаю дзяржавы.

«Дыктатура закону», пра якую так часта кажа прэзідэнт Пуцін, – гэта асабістая схільнасць прэзідэнта, але яна не адпавядае ідэі пабудовы грамадства, дзе ўсе гуляюць па правілах. Насамрэч уся «дыктатура закону» зводзіцца да трыумфу ўлады над правам. Для слабых не застаецца ніякага прытулку. Пад сілай прававых атак ТВ6 знемаглося і нарэшце здалося.

Але перамога Пуціна над Беразоўскім настолькі ж пустая, наколькі і бессэнсоўная. Козырам застаецца пагроза сілы, а не аб'ектыўнае ўзмацненне законнасці. Сур'ёзнай памылкаю з боку кіраўнікоў ТВ6 стала іх вера, што расійскае заканадаўства іх урэшце абароніць. Замест гэтага закон, абслугоўваючы цэнтральную ўладу, зруйнаваў ТВ6.

Расійская грамадскасць абурана, але не таму, што страта ТВ6 – трыумф палітыкаў, а таму, што ў сетцы вяшчання стала адным забаўляльным каналам менш. Многія расіяне, з якімі я гутарыў, адзначалі: свабода слова зводзіцца да таго, хто ў каго крадзе. Пуцін у вачах людзей не выглядае «кепскім хлопцам», яго ўспрымаюць як расійскага ўладара, які ўтаймоўвае сумнеўныя дзелавыя і палітычныя інтарэсы. Не больш і не менш.



Нягледзячы на ўсё, што адбылося, я надалей спадзяюся, што Расія не адкочваецца да камунізму. Дапушчаныя памылкі сведчаць: расійская палітычная эліта мусіць павярнуцца тварам да дэмакратызацыі. Ёй трэба зразумець, што нязгода з урадам – гэта не мяцеж. Нязгода з паноўнаю палітыкай можа дапамагчы кіраўнікам выправіць памылковыя дзеянні. З другога боку, будучым медыя-магнатам яшчэ трэба зразумець, што СМІ – гэта не іх асабістая цацка. Абодва бакі павінны ўсвядоміць: тэлебачанне – гэта ўсяго толькі дойная карова, якая дае даход ад рэкламы.

**© Project Syndicate, люты 2002**

# Першы музей Бруса Лі



У паўднёвакітайскім горадзе Шуньдэ правінцыі Гуандун блізіцца да заканчэння будаўніцтва першай у краіне мемарыяльнай залы, прысвечанай сусветна вядомаму кінаактору і майстру баявых майстэрстваў Лі Сяолуну – Брусу Лі. Адкрыццё ж яго адбудзецца 25 сакавіка 2002 году. Музей пабудаваны мясцовым прыхільнікам Бруса Лі спадаром Хуан Дэчао, які аддаў на гэта дзесяць гадоў жыцця. Кітайскі фанат у свой час адкрыў, што радзіма Бруса Лі, які ўсё жыццё пражыў у эміграцыі ў Ганконгу і ЗША, – горад Шуньдэ. Пасля такога адкрыцця горад ператварыўся ў месца паломніцтва прыхільнікаў майстра кунфу. Стваральнік жа мемарыялу лічыць, што сам новы музей прывабіць яшчэ больш наведнікаў-фанатаў, якія з'язджаюцца сюды з цэлага свету.

Пры гэтым Хуан Дэчао не збіраецца супакойвацца пасля адкрыцця свайго музею і плануе пачаць пабудову ў Шуньдэ Цэнтру баявых майстэрстваў. «Брус Лі – мой ідал, і я хачу захаваць яго дух патрыятызму ў мемарыяльнай зале і ў цэнтры баявых майстэрстваў», – заявіў ён.

Брус Лі, які зняўся ўсяго ў некалькіх амерыканскіх і ганконгскіх фільмах, стварыў у кінематографе цэлы напрамак, прысвечаны баявым майстэрствам. Ён прызнаны самым папулярным кінаакторам і майстрам кунфу ў Азіі, які паўплываў на некалькі пакаленняў моладзі.

У 1999 г. часопіс *Time* уключыў Бруса Лі ў спіс 100 самых уплывовых у свеце кіназорак і славутасцяў XX ст. У гэтым спісе Брус Лі быў адзіным прадстаўніком Азіі.

**Utro.ru**

# Зімбабве выключаюць з Садружнасці

Мяркуючы па ўсім, хутка Зімбабве выключаць з Садружнасці нацыяў (былой Брытанскай садружнасці). Рэч у тым, што ў чацвер парламент Зімбабве прыняў закон аб сродках масавай інфармацыі, які абмяжоўвае магчымасць незалежнага асвятлення прэзідэнцкіх выбараў, што маюць адбыцца ў сакавіку. Закон прынялі на наступны дзень пасля сустрэчы міністраў замежных справаў Садружнасці ў Лондане, на якой разгарэўся сапраўдны скандал. Вялікабрытанія заявіла, што настойвае на выключэнні Зімбабве з Садружнасці (у якое ўваходзяць былыя брытанскія калоніі) з прычыны гвалту ў дачыненні да белых фермераў і прыхільнікаў апазіцыі, няспыннага ціску на прэсу і парушэння правоў чалавека. Аднак Дысцыплінарны камітэт Садружнасці, які складаецца з міністраў замежных справаў васьмі краінаў, падзяліўся па расавай прыкмеце. «Белыя» краіны – Брытанія, Аўстралія і Канада – выказаліся за выключэнне Зімбабве, а новыя сябры спаміж афрыканскіх і азіяцкіх краін вырашылі толькі асудзіць палітыку прэзідэнта Мугабе і заклікалі яго спыніць гвалт у краіне і ціск на прэсу.

Закон, на які так рэзка адрэагавала грамадства, прадугледжвае стварэнне прызначанай урадам камісіі, якая будзе рэгуляваць дзейнасць журналістаў. Цяпер кожнага журналіста, які, на думку ўлады, паводзіў сябе няправільна, могуць аштрафаваць на вялікую суму грошай і асудзіць на 2 гады зняволення. Спіс такіх парушэнняў вялізарны – ад распаўсюду плётак да фальсіфікацыі інфармацыі. У краіне ўжо дзейнічае закон, які карае за крытыку прэзідэнта Мугабе і забараняе ўезд замежных назіральнікаў у краіну падчас выбараў. Паводле новага закону, уезд у краіну будзе абмежаваны і для замежных журналістаў.

Прэзідэнту Мугабе пагражаюць санкцыі Еўрасаюзу: яму і ягонаму атачэнню могуць забараніць падарожнічаць па Еўропе, іх банкаўскія рахункі ў еўрапейскіх краінах могуць замарозіць.

Пытанне аб выключэнні Зімбабве з Садружнасці нацыяў будзе разглядацца ў сакавіку на саміце арганізацыі у Аўстраліі.

**Расціслаў ЦУРКАН**

# Люты. Ліндгрэн

Астрыд Ліндгрэн я бачыў толькі раз – у Стакгольме на ўрачыстым прыёме ў гонар расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына. Ліндгрэн, тады яшчэ досыць энергічная, нават, здавалася, маладая – ёй было ўсяго 90, – несумненна, была сапраўднай зоркаю гэтага прыёму. Яна гэта добра разумела: трымалася проста, але было відавочна, што ў зале прысутнічаюць дзве каралевы – каралева Швецыі і каралева казак...

Яна менш за ўсё хацела быць каралевай. У яе кнігах жывуць простыя, нармальныя людзі, зусім фанабэрыстых няма, а калі падобныя з'яўляюцца – як фрэкен Бок у «Малышы і Карлсане» – з цягам часу ўсё ж высвятляецца, што ганарыстасцю проста бароніцца ад свету самотны чалавек, які забыў сваё дзяцінства...

Дзіцячыя кнігі варта чытаць усё жыццё. Я шчыра радуюся сусветнай «эпідэміі» вакол Гары Потэра, малога хлопца-чараўніка з кніг Джоан Роўлінгс, хоць бы таму, што толькі дзіцячая кніга можа аб'яднаць дзяцей і бацькоў у наіўнай, але неадольнай веры ў абавязковую перамогу дабра. Аднак Роўлінгс стварыла ўсё ж адмысловы казачны свет, у якім людзей не дзівяць цмокі і чароўны кіёк. У Ліндгрэн, калі падумаць, ніякіх адмысловых цудаў не было – ну падумаеш, прапелер у Карлсана, мы з дзяцінства прывыклі не заўважаць гэтай анатамічнай асаблівасці...

Творы Ліндгрэн не пакідаюць сумненняў у тым, што якраз Швецыя – самае цудоўнае месца на нашай планеце. Ты дакладна разумееш, што Карлсан мог жыць толькі на стакгольмскім даху... Гэтаксама ў Капенгагене ты нечакана трапляеш у андэрсенаўскую дэкарацыю, а на лонданскім вакзале Падынгтан цяпер заўсёды будзеш шукаць платформу 9³/₄, каб паехаць у школу чараўнікоў разам з Гары Потэрам...

Сапраўдная казка – гэта якраз тое, што цябе атачае, да чаго ты можаш дакрануцца, ува што можаш паверыць. І сапраўдную чараўніцу я бачыў пяць гадоў назад на прыёме ў гонар Барыса Ельцына...

**Віталь ПОРТНІКАЎ**

# Клецкая даўніна

*Клецк, як і яго найбліжэйшыя суседзі Капыль і Слуцк, вельмі старажытны горад, магчыма, нават старэйшы за іх. Звестак пра дакладную дату і гісторыю яго заснавання не захавалася, але можна меркаваць, што некалі Клецк быў асяродкам славянскага племені дрыгавічоў, якія жылі менавіта ў гэтым рэгіёне.*



Клецкае гарадзішча – апошні след даўняга жыцця

У XV стагоддзі Клецк належаў да вялікакняскага роду Ягайлаў. Кароль Жыгімонт Стары перадаў яго ў пажыццёвае карыстанне сваёй жонцы – славутай каралеве Боне.

Сын Жыгімонта Старога – Жыгімонт Аўгуст – падарыў Клецк «на вечныя часы» роду Радзівілаў у асобе князя Мікалая Чорнага, які займаў у той час пасаду віленскага ваяводы. Кароль меў асаблівы інтарэс да ягонай сястры Барбары. Гэты каралеўскі інтарэс скончыўся тым, што Жыгімонт Аўгуст узяў шлюб з Барбарай. Тая ўзышла на трон Рэчы Паспалітай усяго толькі на паўгода, але Клецк застаўся за Радзівіламі.

У тыя часы горад меў даволі моцную сістэму абароны. Перадусім яна складалася з земляных валоў і равоў, што звалiся ў той час «акопы». Клецкі замак, або «цвердзь», таксама быў надзвычай умацаваны. Нягледзячы на гэта, у XVI-XVIII стагоддзях Клецк шмат цярпеў ад нападаў розных ворагаў: былі гэта і крымскія, ці, як іх яшчэ клікалі, перакопскія татары, і рускія войскі на чале з царамі Аляксеем Міхайлавічам і Пятром I, і шведы пад камандай Карла XII. Але найбольшы след у гісторыі Клецку пакінуў 1506 год, слаўны перамогай войска навагрудскай і менскай шляхты над татарамі.

Шляхецкае войска на чале з князем Міхалам Глінскім, якое налічвала нямала, як на тыя часы, – 10 000 чалавек, выступіла супраць дваццацітысячнага войска перакопскага хана Баты-Гірэя, які аваладаў Клецкам і засеў у цвердзі. З надыходам шляхецкага войска татары вырашылі пакінуць горад і ўмацаваліся ў тых самых акопах, што адным бокам прылягалі да балоцістай мясцовасці, а з іншага мелі насыпаны з зямлі вал вышынёй на 50 стопаў і бастыён. Аблога цягнулася даволі доўга; татары, не маючы вады для піцця, выкапалі сабе вялікую студню, сляды якой захоўваліся яшчэ некалькі стагоддзяў. Калі, на думку кіраўнікоў шляхецкага войска, абложаныя ворагі дастаткова аслаблі, нашыя суайчыннікі пайшлі на штурм і прымусілі татараў адступіць да дрыгвяных берагоў ракі Цэпры, дзе іх усіх і перабілі або пабралі ў палон. Бойка была такая жорсткая, што вада ў рацэ і недалёкім возеры зрабілася чырвонай ад чалавечай крыві. У памяць аб гэтых падзеях возера і фальварак, што паўстаў троху пазней на ягоным беразе, пачалі клікаць Чырвоным Ставам. Пераможцы вызвалілі 40 000 чалавек, якіх татары гналі ў палон. Якраз гэтая перамога пад Клецкам паклала канец рабаўніцкім наездам «крымчакоў» на беларускія землі. У памяць пра яе князь Мікалай II Радзівіл у 1508 годзе загадаў пабудаваць у Вільні каля свайго палацу касцёл у імя святога Юр'я, які сам фундаваў. Цікава, што ўзятых у палон татараў не перабілі – іх пасялілі ў самім Клецку і ў наваколлі, дзе яны і заняліся традыцыйнымі для беларускіх мусульманаў рамёствамі.

У 1550 годзе ў Клецку былі закладзены мураваны фарны – катэдральны – касцёл. Пачаў яго будаўніцтва ў якасці дабрадзея шляхціц Андрэй Маствілоўскі. Радзівіл Чорны, абярнуўшыся ў кальвінскую веру, забраў касцёл у каталікоў (неўзабаве пасля заканчэння будаўніцтва – у другой палове XVI стагоддзя) і аддаў кальвіністам, пасадзіўшы пры ім у якасці «міністра» славутага беларускага вучонага-пратэстанта Сымона Буднага.

Праз некаторы час, калі князь Альберт Станіслаў Радзівіл пад уплывам езуітаў навярнуўся да каталіцызму, адабраў касцёл у пратэстантаў і вярнуў яго ранейшым гаспадарам, тут у якасці параха служыў вядомы сваёй літаратурнай дзейнасцю ксёндз Марцін, які пісаўся «з Клецку». Да самай бальшавіцкай рэвалюцыі клецкая фара прастаяла як парафіяльны касцёл, маючы адну філію – касцёл у вёсцы Салаўі і 7 капліц у розных мясцах пад горадам.

У сярэдзіне другой паловы XVI стагоддзя, а менавіта ў 1586 годзе, вядомы князь Мікалай Кшыштаф Радзівіл «Сіротка» разам з князем Станіславам II прапанаваў заклasці тры ардынацыі: олыцкую, нясвіжскую і клецкую. Гэтая сямейная ініцыятыва была зацверджана каралём Стэфанам Баторыем. Першым ардынатарам клецкім стаў князь Альберт II, маршалак Вялікага княства Літоўскага. А спатрэбілася гэтая ардынацыя вось навошта: магнацкі род Радзівілаў быў багаты і амаль заўсёды шматлікі, але і ён не быў застрахаваны ад непрыемнасцяў лёсу. Некалькі галінаў Радзівілаў згаслі, не маючы працягу па мужчынскай, а часам адразу і па жаночай лініі. Таму, закладаючы ардынацыю, Радзівілы фактычна закладалі тры новыя незалежныя галіны роду, якія (так меркавалася) хоць і будуць родзічамі, але не блізкімі. Застаючыся Радзівіламі, яны тым самым набывалі больш пэўныя гарантыі для працягу існавання роду ў шырокім сэнсе. Дарэчы, адбылося тое, чаго і баяліся: першай згасла олыцкая ардынацыя, клецкая ж праіснавала да сярэдзіны другой паловы XIX стагоддзя, калі апошні з клецкай галіны – бяздзетны Леў Радзівіл – з найвышэйшага, царскага, дазволу перадаў сваё права на валоданне Клецкам і зямлёй, што яму належала, пад уладу князя Антонія Радзівіла, ардынатара нясвіжскага, паставіўшы, аднак, умову – пажыццёва яго ўтрымліваць. У той час Клецкая ардынацыя налічвала 73 фальваркі, мела вёскі і лясы не толькі пад Клецкам, але і у мазырскім і слуцкім паветах.

Шмат пакутаваў Клецк, як і ўся паўднёвая частка сучаснай Беларусі, у XVII стагоддзі ад частых, жорсткіх і спустошальных набегаў казакоў з Украіны, атрады якіх наводзілі сапраўдны жах на людзей. Імкнучыся пазбегнуць сутычак з рэгулярнымі войскамі, яны нападалі на безбаронных жыхароў мястэчак і вёсак. Не вызначаючыся літасцю ні да кога, казакі не звярталі асаблівай увагі ні на веравызнанне, ні на нацыянальную прыналежнасць ахвяраў сваіх разбояў.

На працягу ўсяго XVIII стагоддзя ніякіх значных падзей у Клецку не адбылося, жыццё нібыта пайшло іншым шляхам – забыліся тут і пра мысляра-бунтара Сымона Буднага, і пра татараў, і пра шмат якія іншыя падзеі з уласнай мінуўшчыны – жылі людзі сабе памалу, рабілі і дзякавалі Богу за спакойнае, няспешнае жыццё.

Акрамя фарнага, у Клецку быў яшчэ мураваны касцёл з кляштарам айцоў дамініканаў. Гэты касцёл заклалі значна пазней за фару – у другой палове XVII стагоддзя, і фундаваў яго князь Станіслаў Казімір Радзівіл. У другой палове XIX стагоддзя, за падтрымку антырасійскага вызваленчага паўстання, дамініканам забаранілі знаходзіцца ў Клецку, а іхні касцёл перадалі ва ўласнасць Рускай праваслаўнай царкве, перарабіўшы яго ў прыходскую царкву. Адзіным сапраўдым расійскім помнікам архітэктуры ў Клецку была невялікая царква, пабудаваная імперскімі ўладамі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, у рамках дзяржаўнай праграмы будаўніцтва праваслаўных цэркваў на беларускіх землях.

Распавядаючы пра Клецк, немагчыма абысці ўвагай і яго знакамітую сінагогу. Пабудавалі яе тыя ж Радзівілы на ўласныя сродкі ў XVIII стагоддзі як падзяку габрэйскай грамадзе Клецку за добрую працу па развіцці гораду. Была яна мураваная, усярэдзіне багата ўпрыгожаная разьбой па дрэве работы мясцовых майстроў, а на франтоне будынку яшчэ пры канцы XIX стагоддзя быў бачны радзівілаўскі герб.

**Андрэй ПЯТЧЫЦ**

# Рэабілітаваць Ларысу Генiюш

Грамадскасць павінна дабівацца судовай пасмяротнай рэабілітацыі вядомага беларускага літаратара Ларысы Геніюш (09.08.1910, былы маёнтак Жлобаўцы Ваўкавыскага раёну Гродзенскай вобласці – 07.04.1983, пасёлак Зэльва Гродзенскай вобласці). Такое меркаванне выказалі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, якая адбылася 1 лютага ўва ўправе Саюзу беларускіх пісьменнікаў (СБП) у Мінску.

Як адзначыла старшыня СБП Вольга Іпатава, у пачатку 1990-х гадоў разглядалася пытанне аб усталяванні помніка Геніюш на яе радзіме або ў Зэльве, дзе яна жыла доўгі час (з 1935-га па 1937-й, а потым з 1956-га па 1983 год). «Урад Беларусі даў такі дазвол, аднак потым прыйшлі часы, калі паэзію Геніюш выкінулі са школьных праграм, а сама тэма ўвекавечання памяці слаўнай дачкі беларускага народу стала амаль забароненай. Пачынаючы з 1998 году Саюз пісьменнікаў чатыры разы звяртаўся да ўрад па пытанні збудавання помніка Геніюш на яе радзіме, аднак так і не атрымаў станоўчага адказу», – паведаміла Іпатава. Паводле яе словаў, бюст паэтэсы (аўтар – скульптар Міхаіл Інькоў), прызначаны для ўсталявання на яе радзіме, зараз знаходзіцца ў бібліятэцы СБП.

Старшыня Мінскага гарадскога культурна-асветнага клубу «Спадчына» Анатоль Белы нагадаў, што 9 снежня 2001 году побач з Музеем выяўленчага мастацтва гораду Старыя Дарогі (Мінская вобласць) усталявалі бюст Геніюш, які з'яўляецца копіяй работы Інькова. Пры гэтым краязнаўца падкрэсліў, што «калі ўлады не дадуць дазволу на збудаванне помніка Ларысе Геніюш на яе радзіме, мы будзем дабівацца яго адкрыцця ў ЗША або Чэхіі, грамадзянкай якой яна была».

Паводле словаў літаратара Міхася Скобы, пасля выказвання прэзідэнта Лукашэнкі аб тым, што ён «разабраўся з лёсам Ларысы Геніюш і ўсёй творчай інтэлігенцыі», сітуацыя з рэабілітацыяй і ўвекавечаннем памяці паэтэсы змянілася ў горшы бок. "Па палітычных матывах Ларыса Антонаўна адмовілася прыняць грамадзянства БССР, аднак дабівалася рэабілітацыі, нават фармальна не жадаючы лічыцца злачынцам», – сказаў Скобла.

На думку намесніка старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэту адваката Гары Паганяйлы, патрабуецца судовая рэабілітацыя Ларысы Геніюш, без чаго немагчыма ўвекавечанне яе памяці. Юрыст лічыць неабходным звярнуцца да ўраду Чэхіі з прапановай аб пасмяротным аднаўленні Геніюш у чэшскім грамадзянстве. «Урад Чэхіі тады зможа заступіцца за яе пасмяротны лёс перад урадам Беларусі і ўзняць пытанне аб перагледзе рашэння прэзідыуму Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь ад 24 лістапада 1999 году, якім паэтцы адмовілі ў рэабілітацыі». Хаця, згодна з матэрыяламі справы Ларысы Геніюш, якія захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі, ніякіх злачынстваў яна не ўчыняла нават па дзеючых у той час законах, а таму невінаватая ні перад народам, ні перад дзяржавай», – сказаў Паганяйла.

Паводле яго словаў, магчымы і другі варыянт дзеяннаў юрыстаў – запатрабаваць не палітычнай рэабілітацыі Геніюш, а даказваць неабгрунтаванасць яе крымінальна абвінавачання праз звычайную крымінальна-працэсуальную працэдуру, прынятую ў краіне.

**Марат ГАРАВЫ**

# Багі сярпа і молата

31 студзеня ў зале Беларускага саюзу кінематаграфістаў адбыўся першы ў Беларусі паказ новага дакументальна-публіцыстычнага фільма вядомага беларускага кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага «Багі сярпа і молата».

Як раней паведамляў БелаПАН, гэты фільм паказалі ў многіх краінах свету, і ён атрымаў прызнанне спецыялістаў на міжнароднай канферэнцыі дакументальнага кіно *INPUT* (30 красавіка—5 траўня 2001 году, Кейптаўн, ПАР) і быў адзначаны прызам Берлінскага кінафестывалю (7-18 лютага 2001 году, Германія). Высокую ацэнку даў стужцы пісьменнік Васіль Быкаў і іншыя вядомыя дзеячы нацыянальнай культуры.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАНу рэжысёр не выключыў, што гэта першы і апошні паказ фільма на радзіме, бо «наўрад ці знойдзецца тэлекампанія, якая возьме на сябе смеласць паказаць стужку, дзе вострa ацэньваецца беларуская рэчаіснасць». «Нават расійскі тэлеканал «Культура» адмовіўся дэманстраваць гэты фільм», – сказаў кінарэжысёр.

Стужка «Багі сярпа і молата» была створана на заказ французска-германскага тэлеканалу *ARTE* пры ўдзеле польскага боку. «Вывучыўшы тэму бальшавізму і праваслаўя, я зразумеў, што руская праваслаўная царква шмат у чым прадвызначыла з'яўленне бальшавізму», – сказаў Хашчавацкі, кажучы пра канцэпцыю карціны. Паводле яго словаў, бальшавізму і праваслаўю уласцівая вера без разумення, а ў сістэме камуністычнай ідэалогіі прысутнічаюць усе элементы рэлігійнай дактрыны. Акрамя таго, мяркуе рэжысёр, руская праваслаўная царква з'яўлялася носьбітам не веры, а ідэалогіі. «А цяпер прэзідэнт Беларусі гаворыць пра праваслаўе як галоўную рэлігію», – адзначыў Хашчавацкі.

Паводле яго словаў, нельга пабудаваць іерархію канфесій, аднак калі размова ідзе не пра рэлігію, а пра ідэалогію, то з такім сцвярджэннем можна згадзіцца: «Тады неабходна прызнаць, што праваслаўе прынялі не як веру, а як дзяржаўную ідэалогію. Не здарма ж прэзідэнт назваў сябе «праваслаўным атэістам».

«Раскоша, што выстаўляецца напаказ у праваслаўных цэрквах, павінна прывучыць народ да думкі, што ён можа быць убогім, а яго ўладары – у золаце, і гэта быццам бы благаславіў сам Бог, бо такое адбываецца ў храмах. Усё гэта вельмі падступна, калі ўлічыць, што царква заўсёды сцвярджала грахоўнасць багацця і ўласнасці. У адрозненне ад іншых канфесій, у рускай праваслаўнай царкве чалавека заўсёды называлі рабом божым, таму не дзіўна, што ў людзях растаптана пачуццё ўласнай годнасці. Гісторыя рускай праваслаўнай царквы сведчыць аб тым, што яе выкарыстоўвалі як імперскі інструмент. Пачынаючы з імператара Мікалая I, які адмяніў тайну споведзі, іерархі царквы працавалі спачатку з царскай ахранкай, а потым з рознымі структурамі тайнай камуністычнай паліцыі», – сказаў Хашчавацкі.

Зараз рэжысёр здымае фільмы, прысвечаныя лёсу беспрытульных дзяцей і псіхалагічным праблемам вайны ў Чачні.

**Марат ГАРАВЫ**

# Беларускі індэкс рэпрэсаваных

31 студзеня ў Літаратурным музеі імя Янкі Купалы ў Мінску адбылася прэзентацыя першай кнігі серыі «Беларускі індэкс рэпрэсаваных». Кніга, аўтарам якой з'яўляецца гісторык Ігар Кузняцоў, называецца «Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950 гады ў Заходняй Сібіры». У ёй утрымліваюцца пайменны спіс і картокія звесткі пра 1 261 ураджэнца Беларусі, знішчанага сталінскім рэжымам на тэрыторыі цяперашніх Новасібірскай і Томскай абласцей Расійскай Федэрацыі, а таксама вытрымкі з дакументаў тых гадоў.

Як паведаміў на прэзентацыі кіраўнік праекту «Беларускі індэкс рэпрэсаваных» Вацлаў Арэшка, цяпер ідзе праца над кнігамі пра беларусаў, якія загінулі падчас рэпрэсій у Маскве і Ленінградзе, аб Курапатах ды іншых месцах масавых смяротных пакаранняў у Беларусі.

Паводле словаў Ігара Кузняцова, над кнігай ён працаваў 8 гадоў. «Сёння стаўленне да тэмы палітычных рэпрэсій у Беларусі далёка не адназначнае. Калі параўноўваць з Расіяй, Украінай, не кажучы ўжо пра прыбалтыйскія краіны, тэма рэпрэсій у нас фактычна замоўчваецца. Няма нават дакладнай статыстыкі аб колькасці рэпрэсаваных у Беларусі», – сказаў Кузняцоў. Згодна з ранейапублікаванымі звесткамі, іх каля 600 тысяч. Аднак, паводле падлікаў Кузняцова, размова можа ісці пра паўтара мільёна чалавек.

«Наша дзяржава нават не папрасіла прабачэння за знішчаных. У адрозненне ад іншых постсавецкіх рэспублік, у Беларусі няма ніводнага помніка ахвярам рэпрэсій, у які ўкладзена хаця б капейка дзяржаўных грошай. У той час як, напрыклад, у Расіі працягваецца выданне кніг памяці ахвяраў рэпрэсій, чым займаецца ў асноўным ФСБ, а ў Літве і Польшчы дзейнічаюць інстытуты па вывучэнні гісторыі рэпрэсій, што фінансуе дзяржава, у Беларусі спынена дзейнасць групы па вывучэнні гісторыі палітычных рэпрэсій, якая працавала пры Інстытуце гісторыі цягам трох гадоў – да 1996-га. Архіў, які збіраўся ў Камітэт па архівах і справаводстве 8 гадоў, ліквідаваны за непатрэбнасцю. У архівах КДБ праведзена не меней за пяць «чыстак» дакументаў», – заявіў Кузняцоў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Уганараваныя на марках

1 лютага ў абарачэнне ўведзены чатыры паштовыя маркі, прысвечаныя XIX зімовым Алімпійскім гульням у Солт-Лейк-Сіці (ЗША). На паштовых мініяцюрах выяўленыя спартсмены, якія прадстаўляюць зімовыя віды спорту: біятлон, скачкі з трампліну, слалам і фігурнае катанне.

Маркі выдадзены наміналам у 300 і 500 рублёў і надрукаваны накладам па 90 тысяч асобнікаў кожная.

Акрамя таго, падрыхтаваны спецыяльны штэмпель і канверт першага дня. У дзень выхаду марак у абарачэнне на Мінскім паштамце будзе праводзіцца гашэнне спецштэмпелем на канверце першага дня.

Аўтар філатэлістычнай прадукцыі – мастачка Святлана Стахоўская.

У XIX зімовай Алімпіядзе, што пройдзе з 8 па 24 лютага, возьме ўдзел беларуская дэлегацыя ў складзе 138 чалавек, у тым ліку – 61 спартсмен.

**БелаПАН**

# Гімнастку Вольгу Корбут арыштавалі ў супермаркеце

Вольгу Корбут, вядомую ў мінулым савецкую гімнастку, якая заваявала чатыры залатыя алімпійскія медалі, арыштавалі па абвінавачанні ў крадзяжы прадуктаў у адной з крамаў у прыгарадзе Атланты (штат Джорджыя). Па рашэнні мясцовага суду Вольгу Корбут выпусцілі пад заклад, сума якога вызначана ў 6 тысяч даляраў. Кошт тавараў, у крадзяжы якіх абвінавачваюць гімнастку, складае ўсяго 19 даляраў. Як заявіў менеджэр Вольгі Корбут Кей Уіверфард, падзея стала вынікам звычайнага непаразумення. Па словах самой гімнасткі, яна проста забыла свой кашалёк у машыне і пайшла па яго, каб расплаціцца. Пры гэтым яна збіралася пакінуць вазок з прадуктамі пры дзвярах крамы. «Вольга была ўжо каля выхаду, калі супрацоўнікі службы аховы вырашылі, што яна збіраецца вывезці вазок з сабою», – падкрэсліў менеджэр гімнасткі.

Становішча ўскладняецца тым, што сведкам па гэтай справе праходзіць адзін з намеснікаў мясцовага шэрыфа, які ў вольны ад асноўнае працы час падпрацоўвае ў ахове супермаркету. Якраз ён і цвердзіць, што былая спартсменка ўжо пачала перакладаць прадукты ў сваю сумку, калі ён падышоў і арыштаваў яе.

Вольга Корбут жыве паблізу Атланты апошнія 11 гадоў. Увесь гэты час яна працуе трэнерам у розных спартовых залах і працягвае выкладаць гімнастыку.

**ИТАР-ТАСС**

СЕЦІВА

# Беларускае войска ў Павуцінні

2 лютага ў інтэрнэце адкрыўся сайт міністэрства абароны Беларусі.

У інтэрв'ю БелаПАНу першы намеснік начальніка Генеральнага штабу Узброеных сілаў Беларусі палкоўнік Станіслаў Смольскі падкрэсліў, што створаны намаганнямі спецыялістаў ваенна-навуковага ўпраўлення мінабароны сайт «выгадна адрозніваецца» ад многіх іншых аналагічных рэсурсаў у інтэрнэце. Сайт, паводле словаў Смольскага, «дае максімальна поўнае ўяўленне пра структуру Узброеных сілаў Беларусі, гісторыю і сучаснае жыццё». Акрамя таго, адзначыў Смольскі, «на сайце прадугледжана старонка зваротнай сувязі, праз якую можна будзе атрымаць кваліфікаваныя адказы на ўсе пытанні, звязаныя з ваеннай службай».

Сярод раздзелаў сайту – навіны (штодзённае абнаўленне); кіроўны склад Узброеных сілаў, іх структура і гісторыя, заканадаўчая база дзейнасці Узброеных сілаў, геральдыка; ваенная палітыка. У дадатковае меню сайту ўключаны раздзелы: «Ваенная навука»; «Часопіс «Армія» (кантактныя звесткі рэдакцыі); «Выставы»; «Медыцынскае забеспячэнне Узброеных сілаў»; «Вольны час (спорт, турызм)»; «Тэндэрныя закупкі» (інфармацыя пра тэндэрныя закупкі, якія праводзіць мінабароны); «Умовы прызыву»; «Інфармацыя пра рэалізацыю матэрыяльных рэсурсаў мінабароны»; «Кіналагічны цэнтр Узброеных сілаў».

Сайт міністэрства абароны Беларусі размяшчаецца па адрасе: *www.mod.mil.by*.

**Юрый КАСЬЯНАЎ, БелаПАН**

# Дажынкавая песня айчыннага спорту

*Калі часам надараецца магчымасць перагледзець выдатны савецкі фільм «Спорт, спорт, спорт», міжволі пачынаеш асэнсоўваць ролю спорту ў грамадстве як мастацтва, якое адлюстроўвае, а часам і вызначае эстэтычны кантэкст і густ дадзенага моманту жыцця.*

Фільм, які з'явіўся ў часе палітычнае адлігі, дакладна ілюстраваў злом эпохі, канец татальнага панавання монументалістыкі ў жыцці краіны Саветаў; не дужа яскравага, але разам з тым канцэптуальнага павароту дзяржавы да звычайных чалавечых праблемаў. Фільм быў адбіткам эпохі, дзе ўжо можна было смяяцца з комплексаў і штампаў савецкага спартоўца і разам з тым – савецкага чалавека ўвогуле, прадукту папярэдняй савецкай канцэпцыі. І савецкі спорт таго часу, і кіно, што адлюстравала яго, былі сапраўды высокім мастацтвам і атрымалі прызнанне не толькі ў Саюзе.

Апрануўшы трэніровачны касцюм замест бронзы, спорт для грамадства пачаў іграць новымі гранямі, да таго часу нябачанымі – чалавечымі. Яшчэ ўсё заставалася як раней, спорт – візітоўка савецкага ладу жыцця, маральныя накачкі перад алімпіядамі, чэмпіёны – вясельныя генералы ў дэлегацыях і на фестывалях, камсоргі і парторгі ў камандах і гебісты побач з імі, але Спартовец перастаў быць монстрам, які ўвасабляў дзяржаву Саветаў. Спартовец ператварыўся ў сімвал, сімвал зразумелы, сучасны, модны, і грамадства, якое ўжо стамілася ад монстраў, запалала да свайго больш прыемнага, больш зразумелага і больш чалавечага адбітку новай любоўю, поўнячы спорт магутнай хваляй сапраўдных, натуральных чалавечых эмоцыяў. Чалавек савецкі і ягоны спартовы адбітак зноў сталіся адным цэлым, і пераможны поступ савецкага спорту зноў трыумфальна пакрочыў па алімпіядах, чэмпіянатах свету, Еўропы і г.д.

Такім самым шэдэўрам стаўся іншы фільм, дзе адным з механізмаў дасягнення пастаўленай перад творам звышзадачы быў зноў жа спорт. Фільм пра іншую краіну, іншае мастацтва, іншую эпоху. Стужка Лені Рыфеншталь «Трыумф волі» была забароненая даволі працяглы час пасля Другой сусветнай вайны, але тым не менш не страціла сваёй змрочнай геніяльнасці, бо таксама была сапраўднаю, была люстрам тае эпохі. Гэта быў зусім іншы спорт, плоць ад плоці нямецкага грамадства сярэдзіны трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Спорт, якім тое грамадства дыхала на поўныя грудзі, і эпоха – час Вялікага Жаху, за які і нямецкаму грамадству, і нямецкаму мастацтву, і ўласна нямецкаму спорту давялося заплаціць не меншы кошт, і ад якога застаўся геніяльны адбітак – фільм «Трыумф волі».

За ўвесь савецкі перыяд можна згадаць адзін беларускі фільм на спартыўную тэму, які запомніўся. Стужку Цеслюка – «У атацы ўся каманда», пра менскае «Дынама» 82-га чэмпіёнскага году.

Калі думаеш, якое ж кіно можна было б зняць пра беларускі спорт цяпер, – губляешся. У нашым грамадстве, і адпаведна ў спорце, няма агульнае мастацкае карціны, мастацкае канцэпцыі, няма згоды. Нібыта на грудзях ляжыць камень, перашкаджаючы дыхаць. Праўдзівыя пачуцці зніклі, праўдзівыя пачуцці не нейкага асобна ўзятага спартоўца, але праўдзівасць агульных людскіх эмоцыяў. Дасягненні асобных спартоўцаў не запальваюць, не натхняюць грамадства па-сапраўднаму. Сённяшні беларускі спорт – адно эклектычныя карцінкі, часам вясёлыя, часам сумныя, але большай часткай ніякія. Спорту, як і грамадству, нестае вызначанасці, ідэі, якая б, як той філасофскі камень, ператварыла астатнія складнікі ў адно цэлае. Але самае галоўнае – не адчуваецца прагі пошуку гэтае субстанцыі. Апеляцыя да памерлых сімвалаў, метадаў і штампаў савецкай мінуўшчыны выела да дзіраў увесь назапашаны рэсурс і выглядае сумна і недарэчна для любога нармальнага чалавека, выклікаючы імкненне адасобіцца і зрабіцца простым сузіральнікам або ў лепшым выпадку нясмела на нешта спадзявацца.

Праглядаючы праграмы з удзелам беларускіх спартоўцаў, заўважаеш відавочную розніцу ў стаўленні да дзяржаўных герба і сцяга паміж беларусамі і якімі-небудзь латышамі, украінцамі, шатландцамі ці ангельцамі. У пералічаных краінах дзяржаўныя сімвалы – жывая нацыянальная гісторыя, якая яднае, ствараe і нараджае.

Той, хто хоць нешта ведае з беларускай нацыянальнай гісторыі, – а такіх людзей нават сярод ад веку занятых спартоўцаў, а тым болей тых, хто прыходзіць на стадыён, нямала, – не можа не адчуваць штучнасці цяперашніх дзяржаўных сімвалаў, а ўжо гэтая акалічнасць, свядома ці падсвядома, што яшчэ горш, прыціскае натуральную эмоцыю любога чалавека, і найперш таго, хто змагаецца за гонар сваёй краіны.

Нестае веры, а адсутнасць веры паралізуе волю. Калі яшчэ ў індывідуальных відах гэта не так заўважна, то ў камандных відаць напоўніцу. Асабліва гэта выяўляецца ў гульнёвых відах, дзе камандны дух, апантанасць, настрой – тое самае *трошкі*, якое дазваляе скочыць, хай не вышэй галавы, але ў сваю сілу. Гэта каласальны духовы рэзерв. Нашыя каманды валяцца паўсюль, бо не маюць гэтага *трошкі*. Футбол, хакей, гандбол, баскетбол... Звароты да магаў і чарадзеяў ад спорту савецкага часу нараджае сон розуму, дарачы адно ўяўную надзею. Гэта як слухаць хіт сямідзесятых-васьмідзесятых.

Малафееў прамовіць выдатную прамову, накачае каманду на пару гульняў, Крыкуноў, як кваліфікаваны спецыяліст, выцісне са зборнай усё прафесійна магчымае, Міранові ч адмыслова дамовіцца з легіянерамі, Барысава чарговы раз заменяць на Шукшына ці Якубенку, але нічога не зменіцца, і няма іх віны, бо памерлыя саўковыя сімвалы цягнуць за сабой такія ж памерлыя саўковыя ўмовы існавання, якіх бы генералаў ці палкоўнікаў ні ставілі на чале федэрацыяў. Мёртвы хапае жывога.

Да нядаўняга часу ў хакейнай эліце нацыянальнай зборнай Беларусі знаходзілася ладная частка былых грамадзянаў Расіі, і адзінай перамогай над расійскай зборнай мы абавязаны этнічнаму расейцу Цыплакову, які забіў гол.

Беларускі спорт драбнее. Фрыстайл, барацьба, мастацкая гімнастыка, фігурнае катанне, біятлон, можна працягваць... Карыстанне з паслугаў натуралізаваных расійцаў, украінцаў і іншых, па сутнасці наймітаў, якіх штурхае наперад іншая магутная матывацыя – даказаць сваю вартасць былым сваім і новым сваім, – такі спосаб грэе наша спартовае чынавенства, такая цяпер ягоная песня. Дажынкі, адным словам. Але ці высокае гэта мастацтва?

Дык ці можа атрымацца геніяльнае кіно пра беларускі спорт напярэдадні чарговых Алімпійскіх гульняў пачатку трэцяга тысячагоддзя? Напэўна. Але яно не будзе адбіткам велічы і сапраўднасці. Зрэшты, і шызафрэнію можна зняць геніяльна.

**Алег ДАШКЕВІЧ**



Фота Ул. ШЛАПАКА

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 4 – 10 лютага

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН**. Забудзьцеся на нейкі час пра свае памкненні, жыццё іншых захапляе больш. Сёння вы камандны гулец, і нават ёсць сэнс даверыцца энергіі і поспеху сяброў і аднадумцаў. У чацвер магчымы «шалёныя грошы», аднак яны могуць як прыйсці, так і сысці. Пашукайце ў сваіх схованках і складах – знойдзеце шмат цікавага. Асцярожней карыстайцеся камп'ютэрнай тэхнікай.



**ЦЯЛЕЦ**. Нават калі праца не такая стабільная і акрэсленая, як вам здаецца, усё далёка не так блага, і бліжэй да выходных справы ссунуцца з мёртвай кропкі. У чацвер верагодны нечаканы паварот у кар'еры, прафесійнай дзейнасці, добрыя навіны пра фінансавыя перспектывы. Праўда, у пятніцу акрэсліваецца праблема падзелу ўлады ці прывядзення справаў да юрыдычна прымальнай формы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Амаль нішто не перашкаджае атрымліваць асалоду ад свайго становішча. Хіба што вам даўно не хапае прасторы, падарожжаў, прэзентацый, так што ў чацвер нехта можа выйграць нешта такое. Астап Бэндэр пазайздросціў бы вашай славе. Лепш скончыць спрэчныя справы ці закрыць юрыдычныя недарэчнасці да выходных, потым складана разлічваць на справядлівасць.



**РАК**. Здаецца, што вы застрахаваныя ад непрыемных нечаканасцяў, але гэта ў тым выпадку, калі з вамі побач сужэнец. Разумна адмовіцца ад актыўнай грамадскай пазіцыі, з'ехаць у іншую краіну, хаця б на час. У пятніцу не настройвайце людзей супраць сябе. Лепей увогуле пазбягаць кантактаў, паколькі можа знайсціся чалавек, які марыць прыцягнуць вас да адказнасці ў юрыдычным парадку.



**ЛЕЎ**. Вас цікавіць перш за ўсё публічная прэзентацыя, як вы глядзіцеся ў вачах атачэння. Ёсць сэнс праводзіць рэкламныя акцыі ў сераду, прасоўваць новыя праекты, ладзіць маленькія шоу. Эфект выбуху бомбы выклікаюць вашыя прафесійныя дасягненні ў чацвер; прадумайце стратэгію далейшага развіцця. У пятніцу ўмяшанне праваахоўных органаў непажаданае.



**ПАННА.** Ёсць шанец давесці дом да бляску і ладу, з вас цяпер атрымаецца зусім неблагі гаспадар. У дзяцей была нявызначанасць з кар'ерай альбо вучобай, але чакаюцца добрыя перамены, верагодна, нехта з іх рашыцца на далёкае падарожжа. У чацвер салідны чалавек садзейнічае паляпшэнню вашага матэрыяльнага становішча, магчымая нечаканае камерцыйнае пагадненне.



**ШАЛІ**. Выдатны творчы перыяд, праўда, вы схільныя звяртацца да старых формаў, што прайшлі праверку. І нават да старых Музаў-каханых. У чацвер забава нечакана пацягне за сабой новыя магчымасці, а некага чакае каханне з першага позірку. Важна, каб у пятніцу адчуванне таго, што прафесійная дзейнасць не падтрымліваецца ўладамі, не перарасла ў рэальнае супрацьстаянне.



**СКАРПІЁН**. Вам таксама «свеціць» нешта матэрыяльнае ад бацькоў ці блізкіх у сераду. Думкі часта вяртаюцца да тэмы ўладкавання роднага дому, пошуку кватэры, яшчэ ёсць шанец штосьці паспець. Сужэнец у чацвер паводзіць сябе абсалютна непрадказальна, вы трапляеце ў гісторыі. Ну што ж, можа – даць яму волю, і тады жыццё пачне выглядаць больш прыцягальна і арыгінальна.



**СТРАЛЕЦ**. Вам бы ўсё паразмаўляць, павыступаць, наведаць лекцыі, паездзіць. Чым больш руху ў чацвер, тым вышэйшыя шанцы на шчаслівыя супадзенні і сустрэчы з вельмі цікавымі і важнымі ў будучыні людзьмі. Вось толькі не страляйце варон па дарозе. У пятніцу асцерагайцеся аматараў лёгкай нажывы, не адкрывайце шырока торбаў і кашалькоў у грамадскіх месцах.



**КАЗЯРОГ**. На працы ціша і спакой, руху нават замала. Затое здароўе ў норме. У чацвер магчымы сюрпрыз ці падарунак ад прыхільніка, нехта зноў некага кахае і выратоўвае. Не выключана выстаўленне абвінавачанняў з боку сужэнца ці відавочных апанентаў у пятніцу, палкі ў колы – з дзяржустановаў, і гэта толькі пачатак, калі вы не абдумаеце лініі абароны.



**ВАДАЛІЎ.** Вадаліў – усім прыклад, а ў кампаніі незаменны лідэр. Але адпачываць на лаўрах коштам мінулых дасягненняў не выпадае, ад вас чакаюць дзеянняў і працягу геніяльнага шляху. Раптам нехта задумаецца пра нашчадкаў – гэта ж таксама вынік, які мае дачыненне да жыцця пасля жыцця. Надта не шуміце ў пятніцу, бо органы аховы парадку могуць выбраць вас у якасці свайго кліента.



**РЫБЫ**. Стан «ціны ў балоце» не надта радуе актыўных людзей. Знайдзіце спосаб неяк і расслабіцца, калі зоркі так стаяць. Зрухі ў станоўчы бок чакаюцца пры вырашэнні пытанняў нерухомасці, лячэння і эміграцыі. Зрэшты, на самоце можна таксама стварыць штосьці геніяльнае, а таксама сустрэцца з Музай. У пятніцу – гульні начальнікаў ці юрыстаў вакол вашага сацыяльнага статусу.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1117 Нумар падпісаны ў друк 3/02/2002 (15:00) Наклад – 7.950